УДК 821.161.3-821
ББК 84(4Беи)
Д13

Рэдагаванне і малюнкі аўтара

**Давідовіч, С. Ф.**
Д13 Збор твораў. Т. 7. Вершы. Паэмы. Апавяданні. Казкі. / Сяргей Давідовіч. — Мінск : А. М. Вараксін, 2017.— 408 с., іл.

ISBN 978-985-7147-96-0.

Сёмы том абагульніў вершы, паэмы, гумарэскі, апавяданні, казкі, у якіх адлюстраваны лёсы людзей і цікавыя падзеі.

**УДК 821.161.3-821**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7147-96-0**

## Сёмы том

Для кожнага творца
даўно не сакрэт —
Задуманы вынік
вянчае работу.
Каб значнае штосьці
пабачыла свет,
Спрадвеку працуюць
да сёмага поту.

Я сэрцам збалелым,
я лёсам пішу
Аб часе, аб свеце,
аб шчасці, аб горы.
Я ў сёмы свой том
укладаю душу
Да кроплі, як і
ў папярэднія творы.

Свядома
Адвечным натхненнем заву
Ўлюбёную ў творчасць
душу-парадзіху.
Адказна,
Да сёмага поту жыву,
І буду пісаць
да апошняга ўздыху.

## Я – вясковы

З гораду я рвуся,
            як з палону,
З гарадскога чаду,
            тлуму, гуду.
Я — вясковы па душы да скону,
Я — вясковы
Быў
І ёсць,
І буду!

Вёску я люблю
            нібы ікону,
На якой выява
            родных, блізкіх.
Я — вясковы па крыві да скону
Ад сваіх народзін,
Ад калыскі.

Дзе б ні быў я
            на шляхах жыццёвых,
Неадступнай думкай
            быў сагрэты:
Я — вясковы —
Ад бацькоў вясковых,
Я — вясковы!
Й ганаруся гэтым!

## Цуд

Такое сонца
бачу першы раз
Пры ранішнім
загадкавым усходзе.
Здаецца й сам,
перадусходні час
Зайздросціць пазалочанай прыродзе.

А цішыня!
Якая цішыня!
Якая далікатнасць прачынання!
Яна рыхтуе
надыходу дня
Любоў да ўсіх,
жыццём зачараванне.

Салоўка не праспаў
пару сваю,
Усхвалявана пачынае цёхкаць.
Я не крануўся,
Ціхенька стаю,
Каб гэту непаўторнасць
не спалохаць.

# Пастушок

Ідзе з былога
　　　　штось да заняпаду,
Мінула нейкіх
　　　　сорак год — і шок.
Мы страцілі цікавую «пасаду»,
З такой ласкавай назвай —
Пастушок.

«Збядненне душ…»
Няўдалы загаловак
Для летапісных
　　　　з’едлівых радкоў.
Не стала ў вёсках
　　　　у людзей каровак,
За імі след —
　　　　не стала пастушкоў.

На той пасадзе
　　　　быў я шматгадова,
Успомню гэны цуд —
　　　　і ў горле ком.
І не таму,
　　　　што кожная карова
Адорвала нас
　　　　шчодра малаком.

Таму што
　　　　кожны Божы дзень ад ранку,
Героі кніжак
　　　　там былі са мной,
Я слухаць мог
　　　　прыроды калыханку,

Я размаўляў
з птушынай гаманой.

Свайму жыццю
удзячны назаўсёды
За гэты цуд,
што падарыў мне лёс.
Я на далонях
матухны-прыроды
Шмат спасцігаў,
выхоўваўся і рос.

## Як я і ўсе

Я не ўваскрэсну, я не Ісус,
Я не святы.
Я — памяркоўны, я беларус,
Як ты і ты.

Я не ўваскрэсну, Ісусе наш,
Бо я — жывы
Ніхто не зробіць адтуль «віраж»,
Ні я, ні вы.

Адзін памерлы быў сярод нас,
Жывей жывых.
Ды высвятляецца праз час —
Ён не з святых.

Я не ўваскрэсну, на тое ёсць
Святы канон.
Што б ні казалі, тут кожны «госць»,
Як я і ён.

З надзеяй кожны «да неўспадзеў»
Свой крыж нясе.
Мы не ўваскрэснем, каб хто й хацеў,
Як я і ўсе.

## «Вечны бой»

Жыць, не замінаючы нікому,
Ці магчыма
у тлуме, ў гамане?
Самы сціплы,
ідучы дадому,
Некага кране
ці штурхане.

Нашых лёсаў
клапатлівых чоўны
Ў моры часу
твораць свой Садом.
Ў гэтым чоўне,
самы памяркоўны,
Стукне борт чужы
сваім вяслом.

Мы такія розныя —
і ў гэтым
Непаразумення «вечны бой».
Каб маглі мы ладзіць
з усім светам,
Трэба зладзіць лад
з самім сабой.

## Жанчына

Ў цябе не закахацца
Немагчыма
Жыццёвым ранкам
        і на схіле год.
Ты — адкрыццё,
Ты — тайна,
Ты — жанчына,
Ты — мары
Дзіўна-казачнай палёт.

Далёка ты —
        й жывецца чорна-бела,
Ты блізка —
        і ўсе краскі расцвілі.
Не — без цябе
        жыццё бы не збяднела,
Яно бы знікла
        назаўжды з зямлі.

Ты над усім
        і над уся — царыца,
Нясеш каханне
        і жыццё праз час.
І застаецца прад табой схіліцца —
Жыві!
Красуйся!
Зачароўвай нас!

## Начны баль

Там, дзе ласкава
зара разгараецца,
Неба аб крайчык
зямлі апіраецца.
З боку другога,
у цемравым лёсе,
Неба нябачна —
з зямлёю злілося.

Дзынькаюць тоненька
ў цемры камарыкі,
Вунь светлячкі,
як начныя ліхтарыкі —
Бліснуць і згаснуць,
згаснуць і бліснуць.
Незразумела,
на чым яны віснуць.

Марыцца дзіўна,
загадкава мроіцца,
Быццам паўсюдна
хтось казачны тоіцца.
З зоркамі разам
свой баль пачынае
Добра вядомая,
фея начная.

## «Па Даўгінаўскім гасцінцы»

«Па Даўгінаўскім гасцінцы» —
Я чытаю у Купалы…
Я на кожнай тут вярсцінцы
Драў падэшвы —
                хлопча ма́лы.
Як жа мне
                ўсё тут знаёма —
І Здарэння непралаз,
І хады няблізкай стома,
І заплечны груз штораз.

Па слядах Купалы крочыў
На пятнаццаць год пазней.
Ў дождж,
У спёку,
Днём
І ўночы,
Шмат гадоў і безліч дней.

У Карпілаўцы, бывала,
Дзе і жыў Ядвігін Ш.,
Часцяком гасціў Купала —
Зналася з душой душа.

Знакамітыя прысады…
Джгаў між імі
                я не раз.
Хтосьці знішчыў без ашчады
Гэта дзіва…
Можа, й час.

Векапомны шлях той годны
Паўз малой радзімы лёт,
У Карпілаўцы дзе роднай
Й нарадзіцца даў мне Бог.

Я і сёння
ў вёску еду,
Шлях Даўгінаўскі —
шаша.
Чую, як вядзе бяседу
З песняром Ядвігін Ш.

## Масточак

Той масток,
 што нас з табою звязваў,
Віснуў над рачулачкай без назвы,
Годны быў для малае вагі.
І таму ён праслужыў
 так мала,
Даўся ў гніласць —
 і яго не стала,
І цяпер сумуюць берагі.

Дошчачка адна
 і два бярвенцы —
Вось і берагі-паразуменцы,
І здзяйсненне маладых надзей.
Той масточак
 быў сваім для рэчкі,
Раз’ядноўваў недаказы й спрэчкі,
Бо яднаў каханне і людзей.

Ах, як сэрца
 б’е у скроні гулка —
Прывітанне, мілая рачулка,
Ты цякла па часе маладым.
А цяпер, мінулым абагрэты,
Я стаю на беразе,
 на гэтым,
А юнацтва светлае на тым.

## Латэрэя

Ў адным пад’ездзе — вяселля зыкі,
Тут сустракаюць жыцця вясну.
А побач слёзы і боль вялікі —
Пад медзь аркестра нясуць труну.

Эх вы, кантрасты
            жыцця-раздрыгі —
Хоць скач, хоць плач,
            хоць круць, хоць верць —
Вяселлі. святы,
            няўдач інтрыгі,
А тут вось побач —
            каханне й смерць.

Без ліку лёсаў,
            хоць свет адзіны,
Хтось свет пакінуў,
            хтось доўжыць род.
Ў суседнем доме
            ў кагось радзіны,
Ніжэй паверхам —
            сям’і развод.

Жыццё нас часам халодзіць, грэе,
Няўмольна розніць ад году год.
Жыццё капрызіць, як латэрэя,
Камусьці выйграш, другім — пралёт.

# У зале часу

Якою рамай
мне гады мае
Аправіць,
Як каштоўную карціну?
Жыцця карціну —
хутка я яе
У зале часу
назаўжды пакіну.

У зале часу безліч твораў.
Я ж
Далёка буду
ад «іканастасу».
Ці зацікавіць
гэты вернісаж
Нашчадкаў,
блаславёных новым часам?

О нашы жыцці!
Лёсы-мастакі!
Шуканні, кампазіцыі і спробы…
І я раблю
апошнія мазкі,
Авось камусьці
буду даспадобы.

## Каляровыя ветры

Ціха, спакойна,
Няма скразняку,
Гаю застыў, нібы сонны.
Мне ўсё здаецца.
            што ў беразняку
Ветрык гуляе зялёны.

А праз дарогу,
            мінуўшы кусты,
Вольны разліў златажытны.
Ветрык над жытам
            жыве залаты,
А па-над рэчкай — блакітны.

Там, дзе рыхтуюць умовы касьбе
Мора лугоў, сенажаці,
Ветрык у краскі
            ўпрыгожыў сябе,
Фарбамі ветрык стракаціць.

Ветрыкі колеру, як на паказ,
Туліць зямелька святая.
Але й з Чарнобыля
            чорны да нас
Вецер даўно далятае.

# Гонка

Піхаемся у чэргах,
Ды не без слоў благіх.
Спяшаемся на нервах,
Наперадзе другіх.

Хвалюемся ў напрузе —
Паспець!
Дагнаць!
Схапіць!..
Было так, ёсць
І будзе,
Як есці, спаць
І піць.

Нарэшце гонку вершым —
І вось ён, фініш,
Вось!
Ну, хто жадае першым?..
Такіх нябачна штось.

# Адзіная

Ноч ад месячнасці срэбная,
З Млечным Шляхам на чале.
Ты такая непасрэдная
Ў гэтым казачным святле.

Ціха зорачка адважная
Сіганула да зямлі.
Ты пад месяцам міражная,
Як празрыстыя палі.

Славіць песня салаўіная
Ноч і месяц, і вясну.
Ты на ўсёй зямлі адзіная,
Я й шукаў цябе адну.

# Дзядуля Колас

Дзядуля Колас,
ты мяне выхоўваў
Сваім грунтоўным
вершаваным словам.
Я «Новую Зямлю»
ў душы захоўваю,
Яе я сто разоў
чытаў нанова.

Я захапляўся гумарам сялянскім,
Ўдыхаў я пах
падсмажанага сала.
Я кпіў над
фанабэрыстасцю панскай,
Я плакаў,
як сустрэла смерць Міхала.

Ты плакаць вымагаў,
смяяцца ў голас,
Ты вабіў з лесніком
на паляванне.
Прымі маю любоў,
дзядуля Колас
За творы ўсе,
за суперажыванні.

## Карэнні і парастак

Узяў гітару ў рукі,
А струну
Крануць баюся,
як калісьці, шустра.
Нібыта гук яе
праб’е сцяну,
А там, за ёй —
майго юнацтва люстра.

А там, за ёй…
Было яно ці не?
Не могуць бачыць
парастка карэнні.
І варухнуцца нават
страшна мне,
Маўчала і гітара
У здзіўленні.

## Рэальнасць і сны

Ў рачулцы ваду
Падняла паводка
На вашу бяду,
Ляшчыны і плотка.

Уздоўж берагоў
Плячо ў плячо — шчыльна,
Сцяна рыбакоў
Напружана-пільных.

І лешч не клюе,
І рыбы-шарплюды,
Бо ў рэчцы яе —
Адна на сто вудаў.

Рыбацкія сны
Рэальнасць сурочыць,
Бо й лешч не дурны,
І плотка жыць хоча.

## Фінал лагічны

Як проста ўсё —
жыві сабе на ўдачу,
І як усё складана —
свет вакол.
Я шмат чаго не бачыў,
сёння бачу,
І ўсе свае памылкі,
й хуткі дол.

Хапіла мне ўсяго —
і год галодных,
Я зведаў святы й боль,
дабро і зло.
Век векаваў
не без высакародных
Людзей, ды не багата іх было.

Фінал жыцця не стаў
каўчэгам Ноя,
Не варты я яго,
што ні кажы.
Чужыя ўсе —
і ўсё вакол чужое,
Ды, пэўна, я для ўсіх ужо чужы.

Калі з зямлі
моц не бяруць карэнні,
Ссыхае дрэва,
быццам бы быльнёг.
Фінал лагічны —
гэта суцяшэнне,
Якое шле ў канцы жыцця
Нам Бог.

## Слухачы

Я, пэўна, не апошні
і не першы
Сярод калег
адораных маіх —
Я не люблю чытаць
прылюдна вершы,
Пісаў якія
ў тайне ад усіх.

Душа адорыць
словам вершагодным,
Тады раскрые
творчасці сакрэт,
Калі не варухнецца
гук ніводны,
Калі ўвесь свет вакол —
Яна й паэт.

І толькі ў вёсцы,
ў роднае староны,
Да родных
даляглядаў ідучы,
Магу за вершам верш
чытаць бясконца,
Тут голас
Натуральна мой гучыць.

Я на хаду
для тых чытаю вершы,
Хто ў творчы свет
паклікаў за парог
Хто здольнасці ўва мне
заўважыў першы,
І хто ў жыцці
раскрыцца ім памог.

Чытаю вершы я
зямлі і небу,
Бацькоўскай хаце,
са слязьмі ў вачах.
Я адчуваю
ўсё жыццё патрэбу
Ў такіх,
заўжды удзячных
слухачах.

## Адпачынак

Адпачываюць вочы на табе…
Адпачываюць рукі ад работы…
Адпачывае неба ад дажджу…
Зімою і прырода ў адпачынку…

*

Каб не палоніў
адпачынку цень,
Я не губляю
ні адной хвілінкі —
Я і з пяром,
і з пэндзлем кожны дзень
Імкнуся «адпачыць»
ад адпачынку.

За працаю
прыемна адпачыць,
Ствараючы і з слоў,
і з фарбаў дзіва,
Што дазваляе
створанаму жыць
Напружана,
Хвалююча,
Імкліва.

## Кожны год

Асмяглая прырода
Ласкавы дожджык п’е.
Начная прахалода
Адорвае яе.

І чуе цемра ночы
Лес, поле і траву —
І ўсё вакол шапоча:
— Жыву! Жыву! Жыву!

І набіраюць моцы
Расліны і зямля.
Здароўе гэта ноч ім
Вяртае спакваля.

А ранкам наваколле
Уславіць сонца ўсход.
Такое у прыполе
Прыносіць кожны год.

## Паэзія

Душу заўжды вярэдзілі
Пытанні:
Быць?
Не быць?
Без таленту ў паэзіі
Няма чаго рабіць.

Бяздарныя здрапежылі
Жыцця жывую плоць.
Без смеласці ў паэзіі
Сябе не пабароць.

Узнёслыя узвежылі
Над чорным злом святло.
Без талентаў паэзіі
Ніколі б не было.

## Да сустрэчы...

Я пакутую думкай міжволі,
Мо таму, што наперадзе дол —
А чаму ні разочку, ніколі
Не прысніўся мне Бог ці Анёл?

О які б гэта сон быў уцешнік!
О якое б то свята было!
Дык няўжо я —
            апошні ўжо грэшнік?
Дык няўжо
            я тварыў толькі зло?

І пара мая не маладая,
Й не часовы —
            хвілінны я госць.
Мне б пабачыць,
            як Бог выглядае,
І які ён, Анёл,
            калі ёсць?

Я б — ні скаргі да іх,
            ні прашэння,
Адчуваў бы адно — благадаць.
Кажуць, бог
            на тым свеце сустрэне,
Што ж, пабачу —
Не доўга чакаць.

## Жаўрук

Як толькі заспяваў
Жаўрук,
Здаецца, што спявае
Неба.
І адчуваецца патрэба
Знайсці, убачыць
Песні гук.

Не рвецца
Дзіўнай песні ніць —
А ў небе сіне,
Ясна,
Чыста,
Нібыта там няма саліста,
А Бог
Званочкам серабрыць.

Вось так,
Ледзь бачны ручаёк
Бяжыць
Між беражкоў сунічных,
Спявае голасам крынічным
Ледзь чутна —
А чуваць здалёк.

## На розных берагах

Кажуць, праўды
 ўсё ж няма ў нагах,
Ісціна — ад многіх бед збавенне.
Мы ж стаім
 на розных берагах
Узаеманепаразумення.

Узаеманедаверу глог
Блытаецца колка
 пад нагамі.
Дробязныя крыўды,
 як быльнёг,
Пачынаюць прарастаць між намі.

Мне б рукою —
 да тваёй рукі
Дацягнуцца —
 й вось яно, спатканне!
Мы ж пакуль —
 па розныя бакі
Нашага агульнага кахання.

## Сумуецца ўдвая

Як сонца хіліцца
да захаду,
І дзённы прыціхае тлум,
Душой да разважання я брыду,
А разважанне —
Родзіць сум.

Чаму увечары сумуецца
Заглыблена —
Ну хоць крычы?
Ці не таму,
што штосьці чуецца
Непрадказальнае з начы?

Дык гэта вечар —
дня патыліца…
Ды іншае заўважыў я —
Калі жыццё
да скону хіліцца,
Тады сумуецца ўдвая.

## Без астатку

Каб штосьці даць —
патрэбна штосьці мець.
Вось запавет,
найпершы для паэта.
Бо нават птушачка
не будзе пець
«З пустой душы» —
і трэба помніць гэта.

Але і тут
галоўны ёсць сакрэт,
Разгадка, што заўсёды хвалявала.
І трэба творцу
помніць запавет:
«Каб штосьці даць…»
Не! «Штосьці» — гэта мала.

Калі сябе аддаць —
аддаць ўсяго,
Калі душу у вершах —
без астатку.
Паэт жыве і піша для таго,
Каб ўсё аддаўшы —
пачынаць спачатку.

## Чакае мэта

Жыццё пастаўлена на кон —
Да зоркі дацягнуцца.
Галоўнае набраць разгон,
Ад мары адштурхнуцца.

Не перашкода — паварот,
Імчаў я прама й прама,
Праз меркаванняў нечых плот,
праз нечых думак яму.

Бар’еры прыкрых слоў —
не ў лік,
Ці ж зайздрасць —
канец света.
Тупік — усё-ткі не тупік,
Калі чакае мэта.

## То рэбус, то...

Якая незнаёмая дарога —
То бор густы,
То ельнік малады.
Тут кожны паварот,
            як засцярога,
Тут кожнае віхлянне —
            ў нікуды.

І лес тут марыць
            патаемна-думна,
І мне па ёй
            ідзецца весяло.
Па ходжанай дарозе
            крочыць сумна,
Дзе ўсё на вочы
            ўжо даўно «лягло».

Ў дарозе мы —
            вакол падзей аблога,
Рыхтуе нам сюрпрызы
            кожны год.
І добра, што жыццёвая дарога —
То рэбус,
То таемны паварот.

## Каса і серп

Застаўся пад застрэшкам
мамін серп,
Сумуе побач
татава каса.
Здаецца мне —
абоім ім няўцерп
Пад сонцам жаць,
касіць, пакуль раса.

Ім сніцца поле
ў каласах і луг,
Жаночы смех,
замах у такт мужчын.
Серп і каса
без гаспадарскіх рук
Застылі тут,
нібы без збожжа млын.

Даўно ў мінулым
спеў жаночы жней,
І свісту вострых касаў не чуваць.
Без працы серп з касой
і без надзей —
А ім бы працаваць і працаваць.

## Ратуй нас, прыгажосць!

Паэты і улады,
Нібы агонь і лёд,
Нібыта хрэн і мёд,
Быццам тапор і сук.
Агонь цяпло стварае,
               а лёд міжволі тае,
Тады агню — каюк.

Таму ім паасобку
Было б лягчэй ісці,
Ды не паставіш кропку
На жыцці.

Без Музы сум ліецца.
Без лёду ўсё псуецца —
Ратуй нас, прыгажосць!
Хай будзе ўсё, як ёсць.

## Патрэбен трэнер

Пабудавалі манеж футбольны,
Палац лядовы,
Пляцовак мора.
Цяпер лістаем спіс пратакольны,
Сваіх шукаем сярод прызёраў.

Ды штосьці мала
нас там — адзінкі.
Зусім не чутна
пра футбалістаў.
Відаць, жывецца ім без напінкі,
А хакеістаў і след там выстыў.

Ці мала грошай
ляцяць на вецер?
Ці ў трэніроўках
няма напругі?
Хутчэй за ўсё,
ім патрэбен трэнер
З патрыятызмам,
ды не без пугі.

## А сёння што?

Жыць, не ствараючы нічога —
жыць нікчэмна.
Як важна ў справы укладаць душу.
Чытаць напісанае некім —
так прыемна,
А ці прыемна хоць каму,
што я пішу?

Сучасны творца — у сябе ўлюбёны,
Сваё чытае на уласным «Я».
Былі ж калісьці
паэтычныя салоны,
Збіраліся паэты,
як адна сям'я.

Сваё для ўсіх чыталі,
іншых адкрывалі,
Было карысна й пазнавальна ўсім.
І — у душы, бы
ў паэтычнай зале
Кіпела творчасць, панаваў уздым.

Духоўны быў уздым,
паэзія буяла —
Застаўся спіс імён,
для нас святых…
А сёння што?
У нас імён нямала,
Хто з рыфмаплётствам —
панібрат, на «ты».

## Ды адчуе счарсцвелы!

У пакутах бярозы
вясною ад ранаў,
Ад насечак глыбокіх,
ад піл, тапароў.
Абляпілі ствалы іх
мяшкі з цэлафанаў,
У якія сцякае
празрыстая кроў.

А бярозцы баціць —
ды адчуе счарсцвелы!
А бярозка крычыць —
ды пачуе глухі!
Ды няхай абміне
жорсткасць стан яе белы!
Ды адпусціць хай Бог
вінаватым грахі!

# Выключэнне

Жыццё — канон,
Ён кожнага кране,
Ўсё ма́е рамкі,
    ўсё абмежавана.
Ёсць для ўсяго і ўсіх —
    ці «так», ці «не»,
Ёсць берагі у рэчкі, ў акіяна.

Сумленне —
Нашы рамкі па жыцці,
Дазволенага межы —
    наша сэрца.
І хоць закон хтось хоча абыйсці,
Той у закон караючы упрэцца.

І ўсё ж…
Што ўсё — каноны,
    гэта — зман,
Ёсць свет,
    што ад канонаў незалежны.
Душа — адзіны ў свеце акіян
Без берагоў,
    як і сусвет бязмежны.

## Успаміны

Ні аблачын,
Ні сонца
У гарадской кватэры —
Маркоціцца бясконца,
Сумуецца без меры.

Ў блакітнай
дымцы далі
Успамінаю жыва.
Рамонкавыя хвалі,
Валошкавае дзіва.

Гмах-горад
Тлумна-дымны
Людзей сціскае,
Вулліць.
І толькі успаміны
Душу маю утуляць.

## Сляды

Калі нехта
Недзе блудзіць
І не выйдзе сам з бяды,
Адшукаць такога будзе
Без праблем —
Былі б сляды.

І па відавочным следзе,
Па слядах
былых падзей,
Знойдзецца блукацель недзе
І «адблудзіць»
Да людзей.

Ў творчым свеце
цесна стала
Паміж твораў
І гадоў.
Ў ім блукацеляў
Нямала,
Праўда, значна менш слядоў.

## Ну і Нарач!

*Быль*

На возеры Нарач
Надвор’е шыкоўнае,
Ды хмары, як навалач
Павіслі раптоўныя.

А мы на сяродку
Счарнелага возера,
І хвалямі лодку
Куляла й ялозіла.

Маланка заблiскала
З-пад неба счарнелага —
Трагедыя блізка,
Далёка да берага.

Я грэб, хоць аслаб,
А што заставалася?
Маліўся, хаця б
Вясло не зламалася.

Не жонка — камяк,
Бы ў жудаснай небылі.
Не ведаю як
Да сушы дагрэбалі…

Ці варта гутарыць
Пра малацікавае?
А возера Нарач
Такое ласкавае.

## Чытайце казкі

Жыцця старонкі
гады гартаюць,
Вядуць няўмольна
у сталасць нас.
Чытайце казкі,
яны вяртаюць
Нас у маленства.
ў ружовы час.

Жыццё, бывае,
туды заруліць,
Дзе сум сустрэне
вас гарчынёй.
Чытайце казкі,
яны атуляць
І весялосцю,
І дабрынёй.

Гады мінаюць
і час іх множыць,
Ўсё меней, меней
гадоў запас.
Чытайце казкі,
яны падоўжаць
Жыццё — і гэтым
усцешаць нас

## Здзічэлы сад

Калісьці людзі тут жылі —
Багата… не багата…
І тут, на кінутай зямлі.
Стаяла колісь хата.

Падмурак вось —
Каменняў рад,
Вунь склепа мураванка.
А навакол — здзічэлы сад,
Вось прыступок ад ганка.

Сум пазірае
З гэтых дрэў,
Сад, пэўна, плача ўпотай.
Няма людзей —
І сад здзічэў,
Як баба-адзінота.

Сад туліцца
Да той пары,
Калі ён быў у сіле.
Тады — яго гаспадары
Любілі гладзіць па кары
І «на руках насілі».

А ўжо калі завітваў госць,
Экскурсілі па садзе.
І частавалі ўсім, што ёсць,
Як кажуць, пры парадзе.

— Вось гэты яблык — наліўны,
А гэты — цукар з мёдам.
А гэты яблык — сакаўны,
Ён дзівіць кожным годам.

А вось, я прышчапіў «ранэт»
Да «штрыфелю» —
Зірніце!
Такі ўжо смак!
Такі букет —
Язык не праглыніце!

Ўсё гэта памятае сад
І дажывае ў скрусе.
Цяпер у садзе заняпад
З імшэласцю хаўрусіць.

Гібее сад, нібыта ў сне,
Гарбее — крыўда томіць.
Хто не ідзе,
Той скубяне,
Хтось голле гне,
Хтось — ломіць.

## Могуць не ўсе

Сустрэў паэта,
Ў яго спытаў:
Што? Толькі гэта
Ты напісаў?

Чаму так мала?
Чаму так вяла
Ты цешыш нас?
Ён — у адказ:

— Былі бы тэмы,
Вакол, дзе мы,
Я б без праблемы
Пісаў тамы.

Хоць шмат мы творым,
Ды больш крычым.
Я — лапы ўгору,
Пісаць аб чым?

---

Пісаць так — значыць
Жыць «пакрысе».
Глядзець і бачыць
Могуць не ўсе.

# Лянота

Я — працаголік!
Так усім кажу.
І ўсё ж старанна,
            ад усіх употай,
Ці рухаюся недзе,
            ці ляжу,
Змагаюся з абрыдлаю лянотай.

Спакусвае яна,
            ну хоць крычы,
Нашэптвае салодзенька і смачна.
Я сёння змог
Яе перамагчы,
Яна назаўтра —
            тут як тут нябачна.

Яна ў маёй душы
            гняздзечка ўе,
Рашаю я па-свойму
            з гэтай цацай:
Яна мяне ў абдымкі —
Я ж яе
Адваджваю надзейным сродкам —
Працай.

# Не крыўдую

Прыемна атрымаць
узнагароду, званне
Ці грамату,
ці нейкі творчы прыз.
Але ж да чытачоў
нясем мы на спатканне
Напісанае — наш казыр, сюрпрыз.

Ні разу я не чуў
пры творчае сустрэчы,
Ды і пачуць такое не хачу,
Пра ганаровы спіс
узнагародаў нечы —
Жывая творчасць трэба чытачу.

Такі мой «спіс» — пусты,
ды я і не крыўдую,
Павінен кожны быць самім сабой,
Дасць Бог я не адну
шчэ кніжку узгадую,
Ці ж гэта горай прэміі любой?

## Запозненая навіна

У блакітным абшары,
Між паважных дубоў,
Лугавіны, папары,
І вясеннія мары
Беластволых гаёў.

І лістоты карункі,
І чаромхавы дым,
І сарокі-вяшчункі
Траскатня над усім.

Але дзень яснавокі
Знаў ужо навіну.
Без дасціпнай сарокі
Апрануўся ў вясну.

## Знакамітасць

Зрабіцца знакамітым,
гэта — шык!
Я падкажу,
калі жадае хтосьці:
Стварыць, напрыклад,
вечны рухавік
Ці выкрыць тайну
вечнай маладосці.

Стаць знакамітым —
ашчаслівіць лёс.
А як яго ашчасціць? —
вам цікава.
Памерці трэба,
потым, як Хрыстос
Ўваскроснуць — вось
і вечная вам слава!

Калі і стану
знакамітым я,
Дык толькі праз
кур’ёзную прычыну:
Што перавёў паперы….
А вартага нічога не пакінуў.

## Іскры з вачэй...

У маўклівай начной цішы
Я бязбоязна
ўперад крочу.
Пры жаданні
й вачамі душы
Можна бачыць
і цёмнай ноччу.

Эх, каб меней
было начэй,
Больш для сонца
было б прастору.
Можна крочыць
было б шыбчэй,
Усяму і усім
даць фору.

Можна крочыць
яшчэ шыбчэй?
Раптам хтосьці —
ба-бах сярод ночы —
Гуз на лбе,
Потым — іскры з вачэй…
Дзе ж, душа,
твае пільныя вочы?

## Хто хоць раз...

На свеце розных
Шмат забаў
І клопатаў,
І гульбаў —

———

Хто з вогнішча
Не выграбаў
Запечаную бульбу,
Не еў такую
Смакату,
Не зведаў
Тых імгненняў,
Хто мячык
Спрытна, на ляту,
Не біў,
Гуляючы ў лапту,
Хоць раз
Не спаў на сене
Хто
Ад крынічнае вады
Ў зубах не чуў
Ламóту,
Хто крапівы
І лебяды
Хоць раз не еў
Ў ахвоту
Хто
Без акрыленасці мар,
Штодннюе
Чорна-бела,
Хто
Замест сябра
Пад удар

(Душу сваю, не толькі твар)
Не падстаўляўся
Смела
Хто
Пасярод жыцця свайго
Не знойдзе месца
Казцы,
Таму ў жыцці
Спазнаць яго
Ніколі
Не удасца.

# Гукі колераў

Як колеры гучаць!
    Бы трубачкі аргана,
Якія ад натхнення
Арганіста,
Да слыху далятаюць —
Фортэ,
П'яна —
Дар геніяў —
    Шапэна, Баха, Ліста.

Як колеры гучаць
    ў прыродзе — нашай маці!
Зялёны —
Лашчыць слых душы штогод.
Па-іншаму гучаць
    для сэрца сенажаці,
Дзе красак каляровых —
Карагод.

Вунь, запаліўся лес —
    спявае восень хорам —
Пунцовы гук, чырвоны,
Залацісты!
Ў шматкаляровых гамах —
    хвалюючага мора,
Дзе дрэвы — ноты,
    фарбы — арганісты.

## Прывіднасць былога

Мінулае — часовая уцеха,
Аб незваротным —
боль на ўсе часы.
І у душы маёй
былога рэха
На розныя гукае галасы.

Душа — мой Храм,
ды вернікаў не стала
Пайшлі з жыцця
ў святое небыццё.
Рэальнае жыццё адсвяткавала
А прывіднасць былога —
Не жыццё.

Па волі Ойца
Й Сына,
Й Святадуха,
Хто нас пусціў у свет
і прыме нас,
Мне засталося
успаміны слухаць
І бачыць той,
даўно мінулы час.

## Гімн

Складаў я свайго лёсу гімн
Штодзённай працай-нотай,
А час праз шчылінкі хвілін
Сачыў за мной употай.

Я і не ведаў пра падгляд,
Стараўся гонар несці,
Каб голым месцам,
Там, дзе зад,
У крапіву не сесці.

О гэты гімн, як цёмны лес,
Складанейшая справа.
То слава ў ім КПСС,
То дэмакратам слава.

А я — нібыта ні пры чым
У валтузні жыццёвай.
Мой лёс — не бацька, а айчым,
Так хрысціць — будзь здаровы!

І як мне не прыпомніць «маць»?
Жыццё — вось гэта нумар!
Не буду болей гімн складаць,
Лепш перайду на гумар.

## Настрой цудоўны!

Штодня без сонечнай пагоды
Сумуюць дрэвы-міражы.
І восень спраўна,
як заўсёды
Выпасвае свае дажджы.

Пахмурнасць не спаўзе
без ветру,
Таму ліе,
Як і ліло.
І замутнілася паветра,
Нібыта запацела шкло.

Дождж абкладны,
а не раптоўны,
Ён родзіць сум
з усіх бакоў.
А вунь грыбнік!
Настрой цудоўны!
І цэлы кош баравікоў.

# Могілкі

Дзе пахавацца чалавеку,
Было праблемаю заўжды.
Здавён адносілі, спрадвеку,
Далей ад горада клады.

Далей…
Ад часу няма спасу,
Ён тлумны не спыняе рух.
І горад, пад уплывам часу
На ўсе свае бакі разбух.

І пашыраецца штодзённа,
Імкнецца разрасціся ён.
І могілкі безабаронна
Патрапілі ў яго палон.

Век нашай памяці кароткі,
З гадамі карацее ён.
Зрабіліся магілы продкаў
Замінішчам для новых дзён.

Мінулага агеньчык кволы
На могільніку раптам згас —
На гэтым месцы навасёлы
Спявалі й танчылі праз час.

Пануе час бесчалавечны —
Былі ў нас продкі — не былі?
Ці знойдзем мы
Спакой свой вечны
У сне апошнім, у зямлі?

## Пяюн

Спявае ў полі пастушок,
Паціху сыпе дождж асенні.
На галаве башлык-мяшок,
Акрайчык хлеба у кішэні.

Навіслі хмары, нібы цень,
Імжыць — хлапчук прамок да пятак,
Наперадзе — цалюткі дзень —
Дождж, пастушок, каровак стататак.

І хоць імжыць, і хоць ліе,
І холад апрыходваў цела,
Уголас пастушок пяе —
Душа яго не замакрэла.

Нібыта сонейка над ім
І шаты неба сінім шоўкам.
І даспадобы спевы ўсім —
Дажджу, і полю, і кароўкам.

І раптам цуд — як Божы дар!
Адпоўз вільготны цень ад поля,
Зірнула сонейка з-за хмар
На пяюна, на наваколле.

## Да роднай зямлі

Бывай, хвалёная Амерыка,
Тай за спіной, знікай з вачэй.
А мне да роднага бы берага
Дабрацца як мага хутчэй.

Ў цябе шмат чорнага,
Менш белага
Між хмарачосавых дамоў.
Я ад твайго незразумеклага
Да роднага лячу, дамоў.

Ты, кажуць, баксамі багатая,
Але ж багацце не ў грашах.
Не памяняю сваю хату я
На ўвесь Нью-Ёрк — нязграбны гмах.

Унізе акіяна покрыва,
Наш «ІЛ» напружана гудзе.
За Беларусь, за сінявокую,
Больш роднага няма нідзе.

*8.VII.1991.*
*ІЛ-86*

## Няма гультаёў

Зайчык сонечны
на бярвеннях
Разамлеў за спіной на сцяне.
Кот пяшчоціцца на каленях —
Так прыемна яму і мне.

А другі кот —
на падаконніку,
Вось такіх гультаёў сям'я.
Ўсе вясенняму
рады сонейку —
Два каты,
Зайчык сонечны,
Я.

Раптам жонка
гукнула ласкава:
— Хоцьма ў хату!
Сняданак гатоў.
Ну нарэшце — прыемная справа,
Я з катамі — у хату рухава,
Да сняданку
Няма гультаёў.

## Сум глыбокі

Што ж ты, вёсачка мая,
Ў безгалоссі тонеш?
Змова ці віна чыя?
Болем нас палоніш.

Не выходзяць сустракаць
Хлопцы — рукі ў бокі.
Спеў дзявочых не чуваць,
Толькі сум глыбокі.

Ні жанчынак гаваркіх,
Ні мужчынскіх «сходак».
Быў асобай кожны з іх,
Кожны — самародак.

Тое ўсё пайшло на злом,
Паліць сэрца роздум.
Сёння — ў кожнага дыплом,
Ён — яшчэ не розум.

## Не бачыў нідзе

Якія сосны —
Ўздоўж дарогі на Нясвіж!
Як помнікі,
стаяць маўкліва.
І хоць я доўга па зямлі
нясу свой крыж,
Падобнага не бачыў дзіва.

Мы побач з матухнай-Прыродай —
Слабакі,
Яе магчымасцяў —
Мы цені.
Стварыць на зайздрасць нам
дзівосны цуд такі,
Мог толькі
незвычайны геній.

Я нарадзіўся ў вёсцы,
побач з лесам рос
Знаёмы з лесаказачнай айчынай.
І ўсё ж такі
не сустракаўся мне дзівос
Нідзе —
І на Лагойшчыне адзінай.

## Я чую неба

Я чую неба.
Як не чуць яго?
Яно жыве
ад краю і да краю.
Яму мільярды год,
і ад таго
Я на яго з павагай пазіраю.

Што хоча нам сказаць
адвечны дах?
Аб чым нас хоча
неба папярэдзіць?
Што нас чакае?
Росквіт альбо жах?
І невядомасць мне душу вярэдзіць.

Яно — наш шчыт
і абярэг жывы —
То грозна паглядае,
то ласкава.
Я чую неба.
Слухайце і вы —
Прыслухайцеся…
Чуеце?
Цікава!

# Апошні блін

Рабіў, што мог…
Ды і зрабіў што мог.
Што можна ўзяць яшчэ
　　　　з жыцця майго?
Цяпер мне, сэрца падкажы
Ці Бог —
Куды ісці? Імкнуцца да чаго?

Жыццё — цішэй, цішэй,
　　　　ледзь ловіць слых,
Палёт душы —
　　　　усё ніжэй, ніжэй.
Ці шмат дадаць магу
　　　　ў апошні штрых,
Які мне папярэдніх даражэй?

Такой праблемы раб —
　　　　не я адзін,
Пры развітанні
　　　　кожны з ёй знаём:
Галоўны клопат,
　　　　каб апошні блін
Не стаў у горле твораў камяком.

## Рамоначкі прысуд

Дзяўчына на рамонцы
Варожыць і ўздыхае:
— Кахае!
Не кахае…
Кахае!
Не кахае…
Пялёсткі рве, хвалюецца —
Напружанасць якая:
— Кахае!
Не кахае…
Кахае!
Не… ках-а-ае?..
Пялёстачкі закончыліся
Й холад па спіне.
— Кахае!
Не кахае…
Кахае!
— Навошта ж ты, рамоначка,
Наваражыла «не»?
Галовачку павесіла
Дзяўчына ў лузе тут.
Ой прыняла нявесела
Рамоначкі прысуд.
І раптам — любы да яе:
— Цябе шукаю я!
А ты на лузе без мяне,
Каханая мая!

## Пагоня

Вядома — і не сёння,
Вядома ўжо даўно:
Ёсць у кіно пагоня,
Тады кіно — кіно.

І кніжкі без пагоні
Праліствае чытач
Без захаплення, сонна,
Ты, аўтар, ім прабач.

І у жыцці пагоня
Валтузіць нас штодня.
Пайшла бы яна тонню
Такая бегатня.

Мы не імчым за некім,
Наш іншы лёс — хоць плач.
З народзін і спрадвеку,
З нас кожны — уцякач.

Канец шчаслівы ў казцы,
Ў жыцці — жыццё цана.
Нам уцячы не ўдасца,
Дагоніць нас *яна*.

## Што з намі?

Глядзіш навакол —
і дзівішся,
Грамадства —
сцяна сцяною.
Няўжо ад людзей
не пажывішся
Спагадаю,
Дабрынёю?

Хтось жорсткі
ці абездухоўлены,
А хтосьці — крутыя
так званыя,
А нехта нямы,
як замоўлены —
Усе — наэлектрызаваныя.

Адно на другога —
гыркаюць,
Нястрыманасці —
Цунамі.
Што гэта за час
раздрыганы
Ці што гэта
робіцца з намі?

Ад працы й бясхлеб’я
не згорбленыя
Апра́нутыя
Па модзе,
Дагледжаныя,
Адкормленыя —
Апамятайся, народзе!

Дык што ўжо —
жыццё заможнае,
На руху да шчырасці —
Путы?
Няўжо пакаленне кожнае
Павінна прайсці
Праз пакуты?

## Мужнасць

Вы бачылі, як прабівае
травінка асфальт?
Асфальт для зямлі, для травы,
для расліннасці — гвалт.
Асфальт для зямлі, для травы,
для расліннасці — краты,
Пад ім пахаваныя
кволага парастка сяты.
Абрынуўся на чалавецтва
прагрэс-дабрадзей
І мёртвай скарынкай
зямлю аддзяліў ад людзей.
На мёртвай скарынцы
усё ж зелянеюць газоны —
Са штучнай і мёртвай травы
гэты насціл зялёны.
І ўсё-ткі жыццё ад жыцця
не аддзеляць ніколі —
Вунь, нават травінка прабілася
мужна з няволі,
Да сонца прабілася
скрозь рукатворнае бедства —
Як гэта падобна
на лёсы людзей, чалавецтва.

## Шалі жыцця

На шалях боль,
На шалях — радасць,
Мінулае
І новы час.
На іх — самаахвярнасць,
Здраднасць,
Усё, што ў нас
І вакол нас.

Мы шмат пытанняў
Вырашалі,
Не успрымаючы ўсур'ёз,
Што штосьці
Дадаем на шалі —
І закранаем
Нечы лёс.

## Тэт-а-тэт

Мы не маглі прыйсці
у гэты свет
Папіць,
Паесці,
Ўцешыцца —
І згінуць.
Ды кожны з нас —
з сабою тэт-а-тэт,
Ці ж можам мы
сябе з сябе адрынуць?

Мы п'ем, ядзім,
мы цешымся, але
Другое «я»
не заўважаць не можам —
Што маем на
духоўным мы стале?
Што сквапна спажываем,
а што множым?

О, каб у кожнай
галаве адна,
Хаця адна бы
звіліна ўскрыяла:
— Хто мы ў жыцці?
Якая нам цана? —
Займелі б новых звілін мы нямала.

## Знаёма ўсё

Над рэчкай салавей пяе —
Душы маёй паплечнік.
А сонца з-за
Зямлі устае,
Расце,
Нібы сланечнік.

Азваўся і вясковы рух,
Паружавелі далі.
З хлявоў
Выходзячы на луг,
Кароўкі зарыкалі.

Здаецца.
Што прырода дню
Сваю душу адкрыла.
Імкнуцца
Мары ў вышыню —
Знаёма ўсё
І міла.

## Здзіўленне

Калі ў дурную галаву
Разумныя прыходзяць думкі,
Для галавы дурной —
Спалох,
Для тых, хто побач з ёй —
Здзіўленне

Калі ў разумнай галаве
Раптоўна з'явіцца дурнота,
Для галавы разумнай —
Жах,
Для тых, хто побач з ёй —
Здзіўленне.

Калі паразумнее хтось,
А так яно
               і быць павінна,
Нас апаноўвае тады
Здзіўленне,
А не захапленне.

Калі разумны чалавек
Чамусьці розумам бяднее,
Ахоплівае нас
Не жах,
А раўнадушнае
Здзіўленне.

Чамусьці й жорсткасць
               дзівіць нас,
А нам бы ўсім —
«У штыкавую»
Супраць таго,
               што сее зло,

Адкінуўшы з душы
Здзіўленне…

Як гэта важна,
не згубіць
Такую якасць,
як здзіўленне.
Але здзіўляць
павінна нас
Адкрыццяў навізна духоўных.

Ці ж можа
сэрцы не здзівіць
Расінак рой на павуцінцы?
Ці аднадзёнак-матылёк
Блакітны
Пад блакітам неба.

Вунь!
Робіць першы крок дзіця!
Вось!
Старасць мудрасцю вяшчуе!
Здзіўленне —
Шлях, які вядзе
У свет чароўны
Захаплення.

## Паляўнічая ўцеха

Сярод беразнякоў
    і хмызнякоў,
Калі бязлісты лес вакол —
    зімою,
Лася абклалі з чатырох бакоў
Сабакі й паляўнічыя пры зброі.

Ён быў тут не адзін,
    ды неўпрыкмет
Паспела з пасткі
    праслізнуць ласіха.
А ён пятляў адчайна,
    блытаў след
Шукаў ратунак,
    каб пазбегчы ліха.

Ён адчуваў аблогу смерці тут,
І брэх сабачы насядаў зласліва.
А лес яго знаёмы —
    кожны кут
Варожа выглядаў і палахліва.

Нарэшце ён рвануўся напралом,
Насустрач смерці,
    паляўнічым уцехам,
Ды стрэл ударыў,
    нібы ў небе гром,
Па лесе пакаціўся
    чорным рэхам.

І штосьці каля сэрца запякло,
І ногі звялі
    пад нябачным грузам.
Яны, нібы зламанае крыло,

Крывавы снег
уздыблівалі юзам.

Той стрэл,
як кропка на яго вяку —
І дзень патух,
і стала ціха-ціха…
І доўга, ад трагедыі ў баку,
Яго чакала верная ласіха.

## Выбар

Згода з усім —
Беспраблемнасць.
Вынік жыцця —
Нікчэмнасць.
Быць?
Ці нябыць?
Усё роўна.
Створанае —
Безназоўна.

———

Стрэсы,
Жыцця землятрусы,
Цяжкасці,
Перашкоды,
Лепш, чым
«Пусці павалюся»,
Лепш, чым
Спакой назаўсёды.

## Што я магу?

Мой родны край,
ты ўзгадаваў мяне,
Вядзе мяне
твая любоў святая.
А што ў адказ?
Каго яно кране,
Вершаскладанне,
хто яго чытае?

Мой родны край —
зямля на ўсе бакі,
Здзяйсненні,
а не Задыяка знакі.
Што я магу?
І ўсё ж прымі радкі
Ўзаемнае любові
І падзякі!

## Ноч

Ці гэта я з дарогі збіўся —
Лічу нагамі пні?
Ці гэта месяц заблудзіўся
Між хмар у вышыні?

Ці побач лесавік блукае
У цёмным гушчары?
Ці ноч забаўніца такая,
Нагамі да гары?

Вунь зайка
скокнуў асцярожна
Здрыгнуўся на хаду.
Сава агучыла трывожна
Сваё ку-гу, ку-гу.

Сава гішэфт сабе прарочыць
А іншым — знак бяды
У ночы вушы ёсць і вочы,
Яна не спіць заўжды.

## Вольга Сяргееўна

Гучыць так прыгожа, напеўна,
І цёпла, як сонейка яснае —
Настаўніца Вольга Сяргееўна,
Калісьці — мая перша-класная.

Настаўніцу першую, пэўна
Ўсе помняць?
Усе — адназначна!
Таксама я, Вольга Сяргееўна,
Люблю вас і помню удзячна.

Ён з памяці не прападае —
Я й сёння ўспамін той адзначу:
Вы — сонечная, маладая,
Прыгожых такіх я не бачыў.

Іду я па памяці промню,
Жыцця дапіваю ўжо чашу.
І ўсіх аднакласнікаў помню,
Й настаўніцу першую нашу.

# Не прыму

Калі ёсць за грахі прабачэнне
Ад людзей,
Ад зямлі,
Ад нябёс,
Не прыму я яго,
                не агучу маленне
За душы ратаванне, за лёс.

Лёгка ласкай чужой захінуцца.
Пакаяннем напоўніўшы рот.
Прабачэнне прыняўшы,
                грахі застануцца,
Лепш было бы ўсё наадварот.

Душы шчырыя ёсць,
Ёсць і тыя,
Для каго ў Храм сцязя, як шаша.
У царкву я іду
                і на святы святыя,
А часцей — калі просіць душа.

## Ты – самая-самая

Ты — самая-самая,
Ты — лёсам абраная.
Жанчына — душа мая,
Жанчына каханая.

Ты — казачна-зграбная,
Душэўна-прыветная,
Чароўна-прывабная,
Ты — сонечна-светлая.

Жыццё без цябе, як сон.
Я жыў, як зашораны.
Я шчасцем дзівосных дзён,
Я Богам адораны.

# Прысвячэнне

*Г. П.*

Ён блізка не чытаў паэм маіх,
І з вершаў —
ані слова не адужаў.
А з крытыкай абрынуўся на іх,
Каб з «жабаю» сваёю
сесці ў лужу.

Ён для сябе —
ікона на куце,
Пясняр паслязакусачных адрыжак.
Па-большасці трымае у руцэ
Ні ручку,
Ні аловак,
А кілішак.

Мы — розныя.
Нам будзе Бог суддзя.
Ад крытыкі
не страціў я «кароны».
І да таго ж —
паэт звычайны я,
Не абласка́ны
І не «заслужоны».

## Песня лебядзіная

То не ранак ружавее,
А твая пяшчота грэе.

———

То не сонейка над лесам,
Гэта ты над маім лёсам.

———

Сэрца — у зачараванні
Ад цябе, твайго кахання.

———

Ты — мая адзіная
Песня лебядзіная.

## Пралескавае мора

Ой, дзянёчкі веснавыя,
Вы, як сны дзявочыя.
Ой, пралесачкі лясныя,
Ой, блакітнавочыя.

Колькі вас між дрэў?
Нямала!
Быццам мора поўнае.
Завітала,
Загукала
Вёсенка чароўная.

Я пралескі рваць не буду,
Я іх не скамякую.
Толькі пакланюся цуду
З цеплынёй,
З падзякаю.

## Розныя

Не вельмі хочацца
Пускаць ў душу,
Што бачу кожны дзень,
Што «на вачах» нашу.

Але яно само
Душу палоніць,
Раніць
І ацяжарвае адмоўным
Памяць.

І чуеш, як душы
Балюча, мулка,
І мусіш быць
Для рознага прытулкам.

І кожны
Гэта рознае
Ў сабе нясе.
Таму, напэўна,
Розныя мы ўсе.

## І гэтак далей...

Ад каменнага тапара
Да калайдара
Суперновага,
Прайшла не малая пара,
Эвалюцыйна-навуковая.

Міне
Нейкіх тысяч год
Й навуковае думак
Узлёт
Дасягне да сонца,
Да зор.
І ўспрымуць калайдар — без шор,
Як нейкі
Каменны тапор.

## Заўсёды нада мной

Заўсёды нада мной,
да скону ўсіх вякоў,
І сёння, і калі мяне не будзе.
Як сонейкі святло,
Складаны лёс бацькоў,
Яны — з усіх вялікіх літар
ЛЮДЗІ.

Заўсёды нада мной
няпросты лёс радні
І продкаў — каго ведаў і не ведаў.
Нядолі іх і долі,
жыцця іх карані
Узрошчвалі між радасцяў і бедаў.

Заўсёды нада мной —
у маналітны час
Прасуюцца гады жыцця — хвілінкі.
Я, продкі-папярэднікі
й бацькі мае, ад вас,
Я — ўдзячная, танюткая галінка.

## Чытач і глядач

Чым цікавы творца?
Пэўна, тым,
Што ён толькі да сябе падобны
Ды і тым,
        што творчы свет у ім,
Богам дадзены
        і «самаробны».

Ды і творчасць
        вабіць нас таму,
Што па-свойму
        кожны «кроіць лусту» —
Штосьці даспадобы аднаму,
А другому гэта ж —
        не па густу.

І таму — не кідайце «з пляча» —
Гэта — блага,
        тое вунь — цудоўна.
Час — за чытача і гледача,
Ўсё пераацэніць усё роўна.

## То сюрпрыз, то капрыз

Жыццё —
То плато, то лагчына,
То неверагодны
Віраж.
То жорстка рэаліць
Няспынна,
То жорсткападманны
Міраж.

Жыццё —
То прыцішвае нораў,
Яно — то сюрпрыз,
То капрыз.
Хоць цяжка
            ўздымацца угору,
Цяжэй
Апускацца уніз.

## Такі ўжо лёс

Спыталася ў вярбы рачулка:
— Што так панікла галавой?
Ці ж у цябе
        няма прытулку?
З табою я
І бераг мой.

Падол твой
        асвяжаюць росы,
Па-над табою —
        неба сінь.
Твае расплеценыя косы
Ў маю ўструменьваюцца плынь.

Вярба ўздыхнула:
— Я над кручай
Сумую ў спёку
І ў мароз.
Бо я названая плакучай,
Такі ўжо мне
        дастаўся лёс.

## Для чаго?

Доля, спраўджанасцю ашчадная,<br>Назапасіла<br>            мэтаў клункі.<br>Ты вярні мяне,<br>            мара здрадная,<br>У няздзейсненыя задумкі.

Ах, туга, туга,<br>Невыносная,<br>Часам збэрсаны,<br>            лёс маркотны,<br>Ты вядзі мяне,<br>            сцежка росная,<br>Ў край фантазіі<br>Бесклапотны.

Тую раніцу салаўіную<br>Абмінуў святакрылы малебен.<br>Ты скажы мне,<br>            жыццё адзінае,<br>Для чаго<br>Я табе патрэбен?

## Непачаты край

Добра плечы
Грэць на печы,
Асабліва ў маразы.
Але вабіць нас
Сустрэчны
Лёс прыгодніцкі,
Адвечны —
Цікавей ён у разы.

Жыць —
Нібы цукеркі важыць,
Значыць —
Ні шыпоў, ні роз.
Але спераздзі міражыць
Лёс загадкавы, як…
Лёс.

Пустацвеццем,
Заняпадам,
Можна поўніць
Дні праз край.
Але ж вунь,
За даляглядам
Дзіваў —
Непачаты край.

## Як і за што?

Як ён жыве!
Аж слінкі ў роце,
Гультайства смажыць
На ляноце,
А усяночныя забавы,
Заместа
Вострае прыправы.
І абібокства ужывае,
І «дармаедскай» запівае
Як ён жыве!
За што жыве?..
Не ўкладваецца ў галаве.

# Імя архітэктара

Горад стары —
выглядае паважліва,
Новабудоўлі —
фасоняцца молада.
Кожны будынак —
раманс ці адажыо,
Архітэктура —
паэзія горада.

Горад падобны
да энцыклапедыі,
Вольна тут
экскурсаводу ці лектару.
Шмат спевакоў
і спартсменаў
мы ведаем,
Ды не заўсёды —
імя архітэктара.

## Павучыцца бы...

Нядбайнасць, млявасць —
            цені нашы клятыя,
Праз іх жыццёвы шлях наш
            не прамы.
Цярпенне й праца —
            нашы памагатыя,
Усё жыццё між імі
            й з імі мы.

То сонечнасць жыцця,
            то вабім золак,
То мы гультайствам
            па жыцці — пад дых.
Нам працы павучыцца бы у пчолак
Ці ў мурашоў.

А лепш — і ў тых, і ў тых.

Каб нас удасканаліць назаўсёды,
Каб нас любілі
            ў профіль, і ў анфас,
Цярпенню нам вучыцца б у прыроды,
Ў яе!
Як толькі церпіць яна нас?!

## «Імцу з галы»

Імчу з гары на санках,
як малы,
І так адчуў сябе
ў дзіцячым свеце,
Што ўголас закрычаў:
— Імцу з галы!
Аж навакол раты
раскрылі дзеці.

Але унізе закрычаў я:
— В-о-ой!
Бо гурбы, хібы —
гэта не дарогі.
Бултыхнуўся ў снег я галавой,
І толькі з гурбы той
тырчалі ногі.

І толькі снег
сыпучы па спіне —
О-ох, добра ўсё
ў свой час — і санкі-гулі.
Мальцы гуртком
адкапвалі мяне:
— Ну як?
Яшчэ паедзеце, дзядуля?

## Кошкі-мышкі

Набіваю на лбе шышкі,
Што ні год —
іх болей, болей
Пры гульні у кошкі-мышкі,
Паміж воляй і няволяй.

Даганяю гладкіх, ладных,
Даўганогіх, таўстабокіх.
Уцякаю ад прыўладных,
Каб бліжэй да харчаблоку.

Прытаміўся —
Няма спасу,
Апрыходвала задышка.
Для развагі няма часу —
Хто я —
кошка альбо мышка?

## Няшчырасць

Здзіўлены няшчырасцю людзей,
Не магу прыняць няшчыры свет.
Стомлены няшчырасцю падзей —
Ўсё-ткі ў чым
няшчырасці сакрэт?

Хто ці што?
Ці людзі, ці гады
Плодзяць гэты вірусны быльнёг?
Ёсць яна, няшчырасць —
Сапраўды,
З ёй мы самі
ладзім дыялог.

Кожны з нас
судзіць другіх прывык,
Уладыкаю — свая рука.
Хтось да нас няшчыра —
мы у крык,
Мы няшчыра да кагось —
Луска!

## Настальгія

Гады маёй мінуўшчыны —
я з імі
У сэрцы да апошняга уздыху.
З’ядае настальгія
па радзіме,
Па той радзім,
аб якой — ні слыху.

Па той радзіме,
дзе я чуў калісьці
Частушкі пад гарэзлівы гармонік.
І сэрцам мне адтуль
ужо не выйсці,
Гартаю я мінулага штодзённік.

Што ні старонка —
успамін пякучы,
Што ні другая —
успамін салодкі.
А настальгічны боль —
такі жывучы,
А чалавечы век —
такі кароткі.

## Пачуцці

У бездані пачуццяў
тонуць людзі —
Эмоцый мора,
нервы — вогнесплаў.
Хто ў радасці пяшчоціцца,
А хтось па вушы ў брудзе,
Якому й сам запасіцца спрыяў.

Эмоцыі,
Пачуцці,
Хваляванні…
Як цяжка з вамі
нам адольваць час.
Але й без вас збяднелі б мы,
Не ведалі б кахання,
Хоць, праўда, й злыдняў
не было б без вас.

Без солі і яда
не дужа есца…
Дык я нам жыць —
з пачуццямі ці не?
Пачуцці неабходныя
Да часу і да месца.
І не да месца ў пэўны час —
па мне.

## Акцыя!

Ура!
На пяць працэнтаў стаў танней
Харч для людзей і для свіней.
І гэта — акцыя,
Не правакацыя.
Старыя і малыя,
Таты, мамы,
Спяшайцеся у крамы.
Хутчэй купляйце,
Не губляйце час —
Усё для вас!
І акцыя
Узрушвае, вярэдзіць,
Але ж забыліся нас папярэдзіць
І прамаўчалі «смела»,
Што перад акцыяй
На сто працэнтаў
Усё уздаражэла.

## Чытайце...

Ў маёй біяграфіі
　　　　　многа такога,
Паверыць у што немагчыма.
І ўсё-ткі прайшоў я,
　　　　　па літасці Бога,
Праз тое — і ўсё за плячыма.

— І што ж там такога
　　　　　твой лёс накалякаў?
Пытаецца скептык з ухмылкай.
— Там безліч станоўчых
Й адмоўных адзнакаў
Паставіла лёсу «учылка».

Я мушу закрыць
　　　　　успамінаў скарбонку,
Там шмат будзе «я» — выбачайце.
Таму прапыняю
　　　　　пра лёс свой гамонку,
Не верыце словам — чытайце.

## У дарозе

Я зноў у дарозе,
Са мной мае думкі,
Ды бабай на возе,
Гадоў маіх клункі.

Гадоў маіх вёсны
Гадоў маіх леты
Я й восеньскім сонцам
Ласкавым сагрэты.

Усё, як належыць,
Маё ўсё са мною.
А зімка заснежыць —
Я думкай з вясною.

Прад зімкай нязванай
Аб леце памару.
Сустрэну ціхмяна
Зімовую ка́ру.

## Мы ў люстэрку

Не хачу быць прарокам
І настрой крэсліць людзям.
Ў блізкім часе, ў далёкім,
Мала радасці будзе.

Чалавецтва ў зеніце
Вынаходніцтва смерці.
Ў час мінулы зірніце,
Гэта мы у люстэрку.

Як заўжды, канец свету,
Ўсе страшылкі й крычалкі
Напрарочыць ўсё гэта
Вам любая гадалка.

Й тэлебачанне страшыць,
Не міргне нават вокам.
Вось чаму ў часе нашым
Смешна звацца прарокам.

## Святакрылая мара

Я выйшаў з хаты
прывітаць вясну,
І без мяне якая гаспадарыць.
А ветрык падштурхоўвае ў спіну,
Кудлаціць валасы —
са мной штукарыць.

Ах ты, блазнюк зялёны, малады,
Твайму утаймаванню век не будзе.
Мае бы падштурхоўваў ты гады,
Ды лепш не ззадзі, у спіну, а ў грудзі.

Магчыма бег свой
сцішылі б яны,
І азірнуцца меў бы я магчымасць,
Каб тэрмін —
ад вясны і да вясны
Набыў шматдзённасць,
а не шматхвіліннасць.

І ўсё ж цябе вітаю я, вясна!
Чаруй!
Хвалюй!
Адорвай жыццясілай!
Ты ўсё малодзіш, гэта — не мана,
І застаешся марай святакрылай.

## Вечны рухавік

Прачнецца, веру,
　　　　вецер махі думак,
І ажыву душой я,
Ажыву!
І стане ветразем
　　　　адчаю клунак,
І зноў я супраць
　　　　плыні паплыву.

Асвеціць, як маяк,
　　　　мой шлях надзея,
Акрыліць вера —
　　　　вечны рухавік.
І дабрыня людзей
　　　　мяне сагрэе,
І будзе пераможным
Кожны міг.

## Жыцця лядзяш

Якое доўгае жыццё,
А як мінае непрыкметна.
Спачатку весела, імпэтна,
Пад старасць —
            сумна, ў нябыццё.

І дзень,
І ноч,
Ў святле,
Ў цяні,
Круціла часу завіруха.
Жыў, не зважаючы на дні,
Жыву —
Нязломленасцю духа.

Лёс данасіўся —
            важ ні важ,
Абносак часу ледзь трывае.
Прадзімак —
            а жыцця лядзяш
Штодзень па кропельцы ўбывае.

## Памылка

Завіруха блытае
Ўсе мае намеры.
Ой мяце, сярдзітая —
Ні нагой за дзверы.

Ах слата няспынная,
Колкая якая.
Дзесь мяне адзіная,
Любая чакае.

Ой слата нязваная,
Зімка-гаспадыня.
Вунь, мая каханая
На марозе стыне.

Заінела, беліцца,
Як Снягурка ў казцы.
Не лютуй, мяцеліца,
Ў твар дзяўчыне-красцы.

І стаіць бялюткая,
А вакол завея.
Распрану́ты, хутка я,
Выбег да яе я.

Бег усхвалявана я
Бег я, як ніколі…
Ды мая спатканая,
Гэта — не каханая,
А бярозка ў полі.

## Тыдзень...

Тыдзень беларускай мовы…
Свята?
Ганьба нам ад веку і да веку.
Толькі тыдзень мове —
Не багата,
Толькі тыдзень —
гэта здзек на здзеку.

Тыдзень можа быць
высокай моды,
Тыдзень —
алегархавага шыку.
Мова ж, як Радзіма —
назаўсёды,
Кожны тыдзень,
кожны год — без ліку.

Да святла —
дарога ўсё ж крывая,
У каго праз тыдзень запытацца:
— Гэта што?
Нам хтосьці дазваляе
Толькі тыдзень
беларусам звацца?

## Мінулае наперадзе

Усё мінае хутка,
Знікае без ашчаднасці.
На месца нашым смуткам
Ідуць чужыя радасці.

Ўсё набывае зрокавасць,
Ўспамінамі вяртаецца.
Мінулага вясёлкавасць
У боль ператвараецца.

Калісьці Задыякамі
Жыццё сваё вярэдзілі.
Адны сваё адплакалі,
Ў другіх — усё наперадзе.

## «Боцман»

Ў юнацтве, Міша Анішчук,
Бяднота, якіх процьма,
Між падшыванцаў — мой сябрук,
Займеў мянушку «боцман».

Чаму? За што такі «пасаг»
У вёсачцы бязводнай?
Ды нёс нас акіян-абсяг
Зямліцы нашай роднай.

І часта пеніўся туман
Між хваляў-краявідаў.
Жыцця ж бязмежны акіян
Па свеце нас раскідаў.

Дзе хто?
Дзе тая?
А дзе той?
Дзень — штыль, а дзень — цунамі.
Дзе «боцман» кінуў якар свой?..
Штармяць гады між намі.

## Кватаранты

Калі Зямля наш дом,
Мы, людзі — кватаранты,
Ніякія мы не гаспадары.
Гаспадары —
Ў сваіх дамах гаранты
Парадку да бясконцае пары.

Гаспадары —
Свае будынкі
ладзяць, лепшаць
Ці дождж,
Ці спёка,
Лета
Ці зіма.
Зямля ад нас крычала,
зараз шэпчыць,
Бо сіл ужо ў яе
на крык няма.

## Каму што

На пагорку снег растаў,
Вясна ў госці зазірнула.
А сусед мой лысы стаў,
Бо яго вясна мінула.

Мне сусед сказаў:
— Хана!
Бачу старасці аблічча…
І суседкіна вясна
Даўно выпіта да дна —
Яе іншае казыча.

Хтосьці і на схіле год
Ў маладых вачамі цэліць,
Хто кілішак цягне ў рот,
Нехта з вудачкай на лёд —
Ўсё-ткі Бог па-свойму дзеліць.

## На жаль...

Ад народзін,
Ад калыскі,
Ад бацькоўскага парога
Да магілы —
Свет няблізкі
За якім — ужо нічога…
Апроч Бога.

Ды не будзе там і Бога
Ў вечнае жыццё
Не верце.
З намі наша ўсё ўмірае.
Там — ні пекла,
Там — ні рая,
Там не будзе анічога,
Апроч смерці.

А увогуле —
Па-свойму
Гэта ўсё пераіначце.
Можа, я і памыляюся —
Прабачце
І не плачце.

## Нябачны

Мне здавалася —
Ў тваіх
Я вачах знайшоў прытулак.
Так хацелася мне ў іх
Быць заўсёды,
Не ў мінулым.

Я дапытваўся не раз
Поглядам —
Ці ёсць надзея?
Вочы ў вочы —
               вось адказ:
Не заўважаны яшчэ я.

# Урок

Званок у дзверы —
Раз і…
Многа раз.
І гаспадыня —
Да дзвярэй
У той жа час.
— Іду ўжо!
Чую я!
Іду!
Хвілінку!..
Ў здзіўленні гаспадыня
Хмурыць бровы:
— Вітаю вас!..
Вы да каго,
Мужчынкі?
Вы памыліліся,
Напэўна?
Хто вы?
Не!
Я не выклікала,
Не…
Пусціце!
Не трэба!
Ды пакіньце вы мяне!
Куды вы?
Не пушчу!
Там спіць…
Там — дзіце.
Вой, як баліць!
Ратуйце!
Памажыце!..

---

Пластом
Яна ляжала
Нерухомым…
Не адчыняйце дзверы
Незнаёмым.

## Што за прычына?

Ну й нажыў сабе ён пару —
Ні сабе, ні людзям.
Даў жа лёс яму пачвару,
Ўсё «налева» блудзе.

Гулённая сцярвоціна,
Гадота-ванітоціна.

Ён яе выхоўваў слоўмі,
Перакоўваў сорамам.
Бабы ж мысляць не галоўмі,
А інакшым органам.

Ах вы, племя… ёвае,
Семя чарцюковае.

Кажуць, загуляў мужчына —
Жонка вінаватая.
Ну а тут, што за прычына?
Што за тайна клятая?

Лепш, чым тут разгадваць,
На сябе паглядваць.

## Успаміны

Мы з табою спазніліся —
Ты — прыйсці,
Я — адкрыцца.
Не хапіла нам шчырасці,
Як было не спазніцца?

Не хапіла нам смеласці,
Мы ж паставілі кропку.
Мець агульнае ў цэласці
Трэба не паасобку.

Нас дарогі здарожылі,
Нас гады пастамлялі.
Пэўна, штосьці мы множылі
Й непазбежна гублялі.

Смуткі й радасці кожныя
З намі не без прычыны…
Па жыцці спадарожныя —
Успаміны, ўспаміны.

## Беларусь-радзіма

Дарога вынырнула з лесу,
І сэрца ёкнула, і — ах!
Бязмежнасцю спраўляе месу
Ў блакіт апра́нуты абсяг.

Што за мясцовасць?
За абшары?
За край ледзь вока дастае,
Нібы няздзейсненая мара
Пяшчоціць крылы тут свае.

Наперадзе
І за плячыма —
Для сэрца цуд,
Для вока — рай.
Дык гэта ж — Беларусь-радзіма!
Дык гэта ж — мой
Лагойскі край!

## Жыццё другое

Я кожны дзень жыву,
нібы апошні дзень,
У мроях, летуценні
і рэальнасці.
На лёсе на сваім
я адчуваю цень
Вядомага мне і
непрадказальнасці.

Я не прыму ніколі
бязвыйсце — клінам свет,
Жыву і буду
думкамі ў бязмежнасці,
Хаця за мной — я чую —
ступае след у след
Другі ўжо цень —
няўмольнай непазбежнасці.

Усё, што Бог нам даў,
на жаль, усё міне,
І мы пакінем,
у жыцці спатканае.
Я спадзяюся — будзе
жыць пасля мяне
Жыццё другое,
мной завершаванае.

# Я іду да Бога

Я прыйшоў ад Бога
І іду да Бога.
Ля яго парога
Скончыцца дарога.

Па жыцці улегцы
Крочыць немагчыма
Штосьці за душою,
Штосьці за плячыма.

Пакідаю родны
Свой куток абжыты,
Дзе быў і галодны,
І не раз быў біты.

Дзе зусім упасці
Вера не давала
Дзе праменчык шчасця
Хліпаў заняпала.

Пакідаю вольны
Свет такі й нявольны,
Дзе хрыбтом мазольным
Працаваў ярмольна.

Дзе усё бывала,
І адчай нязменна,
Дзе жыццё ламала
Праз падзей калена.

Не без хвалявання
Мо не вельмі ўмела.
Я нясу каханне,
Што мяне сустрэла.

Атуліла міла,
Мары акрыліла,
І агнём нябачным
Сэрца апаліла.

Падкажы мне, Ойча,
Перад кім схіліцца?
У жыцці я двойчы
Здолеў нарадзіцца.

У калгасе змалку
Задарма мазоліў,
Ды падняцца здолеў,
Свет свой разняволіў.

Разняволіў лёс я
Марай вершаванай,
Маляваў узнёсла,
Ў творчасць закаханы.

Выкрасае промні
Свет духоўны мілы.
І цяпер нішто мне
Не надломіць крылы.

Некаму здаецца —
Слова знішчыць можна.
Слова застаецца
Жыць непераможна.

Ў слове і адкрыцці,
Ісціны фарватэр.
Ў слове будзе жыці
Незабыўна аўтар.

Вось яно, другое,
Светанараджэнне,
Сэрцу дарагое
Ад акоў збаўленне.

Завяршаю справы
І іду да Бога.
Тут было цікава,
Там — зусім нічога.

## Прыватызацыя

Здабытак будучы —
на сэрцы гіраю,
Ён будзе,
хоць аб ім не мару.
Я хутка ўжо прыватызірую
Кавалачак зямнога шару.

Два метры ў даўжыню
адмераюць,
У шырыню —
зусім нямнога.
Я, са сваёй
такой «кватэраю»,
Навечна буду
з ласкі Бога.

Але, пакуль
у творчай працы я,
Дадам на гэтай жа старонцы:
— Ды ну яе, прыватызацыю!
Лепш без штаноў
хадзіць пад сонцам.

## Вінаватыя самі

Вунь жонка з мужам —
　　　　маладыя крочаць,
Рука ў руцэ,
　　　　відаць, душа з душой.
Аб нечым размаўляюць —
　　　　вочы ў вочы,
Усмешак, слоў вясёлых
　　　　цэлы рой.

Вось так ручай крынічны
　　　　ранак будзіць,
Бяжыць насустрач
　　　　ветліваму дню,
Пакуль яго што-небудзь
　　　　не забрудзіць,
Не ператворыць
　　　　плынь у гарчыню.

А вунь ідуць другія —
　　　　муж і жонка,
Сярэдніх год —
　　　　між імі ўжо скразняк.
Адгаманіла іхняя гамонка —
Яна спытае штось,
　　　　ён — «не» ці «так».

Ці ён праз паўгадзіны
　　　　родзіць слова,
Яна яму ў адказ —
　　　　ні бэ ні мэ.
Ён, каб спыніць
　　　　увогуле размову,
З трох літараў ёй кіне «камплімэ».

А ім жа будзе, пэўна,
        год па сорак,
І шмат гадоў
        наперадзе яшчэ,
А ў душы
        зазірае надвячорак
Й жыцця ручай
        забруджаны цячэ.

Што робіць час
        непрадказальны з намі?
На звод вядзе
        жыцця вялікі цуд.
І, пэўна,
        вінаватыя мы самі,
Што ў чысціні пачуццяў
        плодзім бруд.

А вунь старыя —
        іх падзеі трэслі,
Ламалі іх, яны ж —
        рука ў руцэ.
Яны каханне
        праз гады пранеслі,
Жыцця іх рэчка
        чыстая цячэ.

# Чорная рэчка

Расклала моладзь
вогнішча ля рэчкі,
Як раскладала спраўна
з году ў год.
Хтось скача праз агонь —
смех, жарты, спрэчкі,
А хтосьці водзіць
з песняй карагод.

Падміргваюць у небе
зорак вочкі,
Запальна ноч
Купальская гудзе.
Плятуць дзяўчаты
зграбныя вяночкі,
Пускаюць іх
з прышэптам па вадзе.

Прыгожае, хвалюючае свята!
І казачнасць, з якой
цікава жыць.
Імкнуцца ўпотай
хлопцы і дзяўчаты
Здзяйснення мар усіх наваражыць.

І вось адна дзяўчына
Ўсхвалявана
Вяночку праспявала
Наўздагон:
— Плыві, плыві туды,
дзе мой каханы,
Магчыма, ты падкажаш мне —
Дзе ён.
Была дзяўчына
краскаю чароўнай,

Недасягальнай марай
для хлапцоў.
І вось адзін з іх
сігануў раптоўна —
З абрыва ў рэчку
кінуўся без слоў.

Схапіў вяночак…
Але крык адчаю
Пачуўся ў цемты
й захаплення крык:
— Вось твой вяночак!
Я яго трымаю!
Збылася мара —
я́ цябе кахаю!..
І ціха стала.
Ў рэчцы хлопец знік…

Рачная плынь —
не мелкаводдзя завадзь,
Дзе можна смела
й на сяродку стаць.
А хлопец згінуў,
бо не ўмеў ён плаваць,
Затое, як ніхто,
умеў кахаць.

Не, не было такога
ноччу зорнай,
Паданне гэта
даўніны сівой.
А рэчка ўсё ж
завецца рэчкай Чорнай,
Хоць ганарыцца
воднай сінявой.

# Памажы...

Пад ляжачы камень не бяжыць
Ні вада,
Ні ўдача,
Ні зарплата.
Памажы мне, Божа шчыры, жыць,
Проста жыць —
ні бедна, ні багата.

Я не камень,
Гультаём не лёг
На курортным беразе — на пузе.
Памажы мне «пакруціцца», Бог,
Як круціўся
ўсё жыццё ў напрузе.

Я адной нагою на мяжы,
Ад гадоў імклівых
няма спасу…
Памажы мне, Божа,
Памажы,
Дай хоць трохі
для задумак часу.

## Знаходка ці згуба?

— Скажы мне, прахожы,
Паслухай, харошы,
Згубіў кашалёк я,
Сіроцкія грошы.
Я бачыў, як ты
Паднімаў штосьці за мною,
Я веру, што ты
Не адкажаш маною,
Бо грошы для тых,
Хто пахрышчаны горам —
Я лекі збіраўся купіць
Дзецям хворым,
Ды нейкі прысмак ім,
Ды нейкі гасцінец —
Намуліў ім зубы ўжо
Хлеба скарынец.
Счарнеў для мяне
Раптам
Свет гэты Божы…
Дык чым ты мяне
Абнадзееш, прахожы? —
Цягнуліся вечнасцю
Паўзы імгненні.
Прахожы памацаў
Кашэль у кішэні,
Зірнуў
На свайго субяседніка
Хмура.
— Я не кашалёк паднімаў,
А акурак,
А грошы
Трымаць трэба моцна,
Разява! —
І прэч ад гаротніка

Даўся рухава,
Лічыў свой учынак
За грэх невялікі.
Ды дома пачуліся
Жончыны крыкі
І жончыны слёзы
У тры ручаі
І словы,
Як шэршняў
Пякучых раі:
— За грэх за які
Бог так жорстка карае?
Во горачка-гора!
Дачушка ўмірае.
Адкуль гэта ліха?
За што?
І чаму?
Ці ж хтосьці з нас
Злыдніў камусьці?
Каму?
Няўмольнага лёсу
Няўмольны удар,
За родным парогам
Адчуў гаспадар.
І сэрца гарэла,
Нібыта ў агні
Й сумленне крычала:
— Бяжы! Дагані!
«Прахожы» — туды,
Дзе бядак,
Праміком,
З надзеяй у сэрцы,
Ў руцэ з кашальком.
Хаця бы знайсці яго —
Думка пякла.
О Божа!

Хаця бы дачушка
Жыла!
Але бедака ўжо —
Ні слыху, ні духу.
Прыдбаў той прахожы
Адну
Толькі скруху.
«Прахожы» паклаў
На зямлю кашалёк,
Бо той невыносна
Руку яму пёк.
І подбегам, хутка
Падаўся туды —
Дамоў,
Да сваёй
Нечаканай бяды.
І хочацца верыць —
Лёс будзе шчаслівы,
Дачушка устане,
Бо Бог літасцівы.

# Маўчанне

Маўчанне — золата…
Маўчанне — згода…
Карысці больш,
каб менш яго было
У ім прысмак
і гарчыні, і мёду,
Утойвае дабро яно і зло.

Ў маўчанні —
падазронасці карэнні
І розных думак
сховішча сляпых.
У ім — ўзаеманепаразуменні,
Запазухаю камень для другіх.

Замоўкнуць музы —
у гармат натхненне,
Святая ісціна у гэтым ёсць.
А што рабіць,
калі маўчыць сумленне?
Трагедыі тады —
нярэдкі госць.

Спачатку што было?
Канешне, слова!
З душы і да душы —
масток яно.
Для ўсіх людзей
яно невыпадкова —
У зносінах галоўнае звяно.

## 31-я гадавіна

Час ідзе, час ляціць няспынна
Цераз будучыню ў нікуды.
Трыццаць першая ўжо гадавіна
Нашай страшнай агульнай бяды.

Дата нашай мінуўшчыны страшнай
Й нашай будучыні…
Якой?
Мы з бядой — сам-на-са́м,
Ў рукапашнай,
Мы — жывыя і… «вечны спакой».

Нам змагацца з чужымі грахамі,
Выгляд робячы — глух і нем.
Нам змагацца й нашчадкам —
Вякамі!
Радасць сеялі — гора жнем.

Нібы прывідны меч Дамоклаў,
Цень Чарнобля над намі —
Чужы.
Штось статыстыка сёння змоўкла
Пра заўчасных магіл крыжы.

*26.04.2017.*

## Зазімак

Сад мáраў адбуяў,
адцвіў і сад надзеі,
Скідае лісце
год мінулых сад.
І сонца мітусні
хоць свеціць, ды не грэе
І блякне
успамінаў
далягляд.

Аглядваю жыццё,
як пажаўцелы здымак,
Дзе, быццам праз туман —
Усё і ўсе.
Бывай, мой сад жыцця,
наперадзе — зазімак,
За ім зіма
прысуд нам свой нясе.

## Акно

Глядзець у акно
не заўсёды прыемна,
Шмат бачым у ім,
ды не ўсё нам патрэбна.
Глядзець у акно —
як падглядваць у карты,
Шальмоўства там бачым,
двайныя стандарты.
Няшчырасць у ім
і, нярэдка, ілжывасць,
З акна таго дзьме
ненажэрная хцівасць.
Ёсць там і усмешак
прытворлівы солад,
Але пад усмешкамі
схаваны холад.
Там і ў павучанні
няма недахопу —
О, праца Пятра!
О, акно у Еўропу!

## Моцарт і Сальеры

Сальеры Моцарта
надоўга перажыў,
Пакінуўшы нашчадкам шмат
загадак і разладу.
І свет гудзе, варожыць,
як і варажыў —
Ці выпіў Моцарт
з рук Сальеры яду?

Ці ён не вінаваты?
Ці адбылося зло?
Ці гэта ўсё —
дасціпных чутак казкі?

І вось праз шмат гадоў
сустрэцца ім дало
У іншым свеце
вечнай Божай ласкі.

— Цяпер ні ты, ні я,
не вернемся назад, —
Прамовіў Моцарт ціха…
— Дзеля высокай веры,
Скажы (тут толькі мы і Бог),
ты мне падсыпаў яд?
І, не вагаючыся,
адказаў Сальеры.

Палала лютай зайздрасцю
уся душа мая,
Недасягальны геній твой —
маёю быў няволяй.
Калі й атруціў хтось цябе —
толькі не я

Я за тваёй спіною інтрыганіў —
і не болей.

Здзівіўся Моцарт:
— Да вушэй маіх
Дапяла: ты — забойца мой,
цынічны, бесклапотны.
Сальеры выдыхнуў:
— Я сам такі пладзіў
паўсюдна слых,
Каб праз яго
застацца
бессмяротным.

## Ратавальны «быльнёг»

Шчаўе дзірваннае,
вобаратнік, крапіва,
І, за зіму перагнілая
бульба-шайморы,
Сотні і сотні разоў ўспамінаю —
ні раз і ні два,
Як ратавалі жыццё
тагачаснай галечы галоднай у горы.

Сёння не ведаюць новыя людзі —
і часу хвала,
Пасляваенную долю гаротных,
забытую Богам,
Як былі спалены многія хаты
і вёскі датла,
Як ратаваліся людзі
ад смерці галоднай «быльнёгам».

Дзесяцігоддзі мінулі,
а я ўсё забыць не магу
Ў голад спавітую,
ледзь пражытую тую гадзіну.
Сёння па лузе іду,
з далікатнасцю стаўлю нагу,
І ратавальную бачу
ў траве зеляніну.

## Узнагарода

Вышэйшая з усіх узнагарода
Была б якая пажадана мне?
Магчыма, памяць і любой народа?
Адказ мой, не вагаючыся —
Не!

Гучыць абагульняючы-абстрактна
Народ…
У ім, на жаль, згублюся я.
Агульная увага —
тэрмін штатны,
Агульная адказнасць —
Нічыя.

Вось, каб напрыклад,
чалавек вясковы
Ці просты гарадкі,
праз колькі год,
Прыклаў да сэрца
маіх твораў словы
І ў ім адчуў палёгку ад нягод.

Бо хто не замілоўваўся
ад хлеба,
А дома ладзіць
шведскі стол штодня,
Такім «крутым»
паэзія не трэба,
Такі «народ» для творцаў —
Не радня.

## Душаў «веча»

Прайсці бы «на сяло»…[1]
Зімой утульна ў хатцы
І весела было
Збірацца пасля працы.

Галеча, глухамень,
Ўсе дні, як панядзелкі.
І мы, ледзь гаснуў дзень,
Стваралі пасядзелкі.

Мяцеліцы гулі,
Нібыта д'ябла меса.
А мы сабе былі —
І радыё, і прэса.

І атуляў нас смех
З падкусам незласлівым.
Другіх не меў уцех
Той час, для нас шчаслівы.

Нас клікаў стан душы
На нашых душаў «веча».
Бо дні, як спарышы,
Дык хоць усцешваў вечар.

Не страшны маладым,
Між жартаў і гаворкі
Ні лямпы курадым,
Ні едкі дым махоркі.

---

[1] Пайсці «на сяло» — збірацца моладзі вечарам па чарзе ў нечай хаце.

Дзяліўся хто чым мог
З духоўнае скарбонкі.
У сэрцы я збярог
Мінулага старонкі.

Мінулае прайшло,
Я з ім вяду бяседу…
Пайсці бы «на сяло» —
Ці трэба я суседу?

## Запознены розум

Як я пражыў жыццё?
Так, як і ўсе
Маіх гадоў —
            ў нястачы й весяросці.
Шалянцаваў ў маленстве пакрысе,
Штукарыў, не спыняўся ў маладосці.

У маладосці —
            свет быў дабрадзей,
Здаваўся маладым
            ад край да краю.
Ў ім быццам не было
            старых людзей.
Як састарэў —
            цяпер іх заўважаю.

Цяпер «заўважыў» лёс
            сваіх бацькоў,
Тады і ўсё жыццё неўладкаваны,
Абкладзены нудой
            з усіх бакоў,
Самой нядоляй
            ім наканаваны.

Заўважыў шмат чаго,
            ды хібаў тых
Не выправіць ужо,
            не перайначыць.
І вецер часу ўлоўлівае слых,
Як колісь неудаўшуюся ўдачу.

---

З сур’ёзным сустракаўся
несур’ёзна,
Бляск слоў пустых
лічыў манетай срэбнай.
На жаль, да нас
прыходзіць розум позна,
Тады, калі, бадай што
не патрэбны.

## Невыпадковы

Я — «белая варона»,
Але не ненармальны.
Жыву ва ўсё ўлюбёна,
Для большасці — апальны.

Ды кожны мой учынак,
Для многіх — чорна-белы.
І толькі для адзінак,
Я, можа, зразумелы.

Між творчых беларусаў,
Для іх я — выпадковы.
Я — антыпод хаўрусаў,
Мне не па сэрцу змовы.

Мне белае праменіць,
Другое не прыму я.
Час колер мой не зменіць
І не перафарбуе.

## Ці ж мог я спаць?

Я спаць уклаўся,
ды адразу ўстаў,
Вярнуўся ў хату
з ранішнім святлом.
Ці ж мог я спаць,
калі ўсю ноч не спаў,
Узрушаны
Салоўка
За акном?

Я стомлена
Пераступіў парог,
І ўсё ж прыйшоў
памаладзелы я.
З салодкай стомай
на канапу лёг —
Ў душы
Гучалі
Спевы
Салаўя.

## Вянчанне

*брату Міцю*

Уперлася яе радня,
Ды і сама — адно каранне:
— З табой нам не пражыць
І дня
Без царквасвятага вянчання.

А ён, хоць атэістам быў,
І паважаў не надта Бога,
Сваёй абранай саступіў
І стаў ля алтара святога.

Калі ж вяселле адгуло,
Сямейны быт набіў аскому.
Па-рознаму ў жыцці было,
Ды значна болей — па-благому.

І што шукаць — чыя віна?
Вянчанне — «па баку», Ўсявышні.
Ў каханні — толькі ён, яна,
А паміж імі — трэці лішні.

## Шчодрая рука

Рука Ўладыкі —
　　　　шчодрая рука,
Удзячны ёй за ўсё
　　　　і ўсё дарую.
Бывае. ад яе
　　　　гарыць шчака,
Яшчэ бывае —
　　　　падстаўляй другую.

Рука Ўладыкі —
　　　　шчодрая рука,
Ды шчодрасцю
　　　　адорвае няроўна.
Ўладыкі шчодрасць —
　　　　не для кашалька,
А для душы,
　　　　што прагне жыць духоўна.

І хоць Ўладыкі
　　　　шчодрая рука,
На лёгкі поспех
　　　　мала спадзяванняў.
Дарога да лаўровага вянка
Ляжыць праз пошук,
　　　　працу, намаганні.

## Усё з зямлі

— Галоўны скарб наш
на зямлі — зямля,
Ад першабытных продкаў,
ад пячоры.
На ёй мы пачыналі
жыць з нуля —
І сёння,
І учора,
І заўчора.

Усё жыццё аддаў я,
братка, ведам,
І многія таму
зайздросцяць мне…
Так філасофствуе
сусед перад суседам,
Другі ж сусед,
па-свойму праўду гне.

— Зямля багацце?
Можа, і багацце,
Але ж у свеце
іншага шмат ёсць.
Вунь колькі тэхнікі,
цудоўныя палацы,
А вёска наша —
ці ж не прыгажосць?
Калгас купіў
учора новы трактар,
Камбайны вырабляе
«Гомсельмаш» —
Тут «знаўца» усміхнуўся:
— Эх, аратар!
Не шмат заважыць
слоў тваіх багаж.

Тэорыя твая
ў хамут не ўлезе,
Няма сумненняў —
шмат мы набылі.
Але харчы,
Будыніны,
Жалеззе,
Усё, што на зямлі —
усё з зямлі.

«Аратар» не пярэчыў,
як ні дзіва:
— Ўсё, што сказаў ты,
згодай бласлаўлю.
Але лічу,
не ўсё тут справядліва —
Чаму, што ёсць — з зямлі,
а мы — ў зямлю?

## Адзін матыў

Адсеяўся —
І ўжо дажынкі…
Пагасцяваў —
Пара «дамоў»…
Як шмат
Няздзейсненых учынкаў
І неадбыўшыхся размоў.

Для астываючага сэрца
Ва ўсіх гучыць
Адзін матыў:
Рабіў —
Ды болей застаецца
Нязробленага,
Чым зрабіў.

## Госці

Хоць маладосць — часовы госць
Ярчэй відаць здалёку.
Ёй не схаваць,
            калі што ёсць
Нат у штанах шырокіх.

А сталасць госць —
            з другіх краёў,
Аб ёй другія й словы.
І сум у ёй
            не да краёў,
А толькі да паловы.

А старасць госць,
            што п’е да дна,
Й закусвае да ночы.
І ўсё-ткі з-за стала яна
Ўстае —
            на выхад крочыць.

## Дарадцы

А мне сказалі:
«Не сядзі ціхмяна,
Паводзь сябе заўжды
настырна, жыва.
Заўсёды сціпласць
каштавала танна,
А ў творчым асяроддзі
Асабліва.

Віруй публічна, нібы
«лёд і пламень»,
Ў гісторыю імкніся
«сквозь года».
А ты нагадваеш
сабою камень
Той, пад які
не зацячэ вада…»

Спакойна спіце,
«шчырыя» дарадцы,
Свет творчы
не настырнасцю жыве.
Ваш розум захаваўся
толькі ў …..,
А мой — вышэй,
з народзін ў галаве.

## Скарб чалавецтва

Іду ў бібліятэку,
нібы ў Храм,
Які і праз вякі
не стане рэтра.
Тут творчасці
асобае паветра —
Духоўнасці адвечнай
Фіміям.

Бібліятэкі з намі
Па жыцці —
Ад самага маленства,
з малалецтва.
І гэты скарб
ратуе чалавецтва
І не дае яму
ў тупік ісці.

Чым больш чытаюць кніг,
тым меней бед,
І менш трагедый
стане на планеце.
Паклон табе,
бібліятэчны свет,
І ўсім, хто прысвяціў
жыццё асвеце!

## Неапошняя страта

Нясцерпны боль,
нібы прысуд суровы,
У сэрца завітаў.
Вясенні дзень,
такі шматкаляровы,
Раптоўна —
Чорным стаў.

І стала менш
яшчэ на адно свята —
П’ю боль да дна.
І сэрцам разумею —
гэта страта.

Далёка
Не апошняя
Яна.

*14.V.2017*

## Эх, бывала...

Кожны скажа: — Эх, бывала…
Засяродзіцца,
Ўздыхне.
Знакамітае «бывала»
Ўсім вядома —
Вам і мне.

Нас «бывала» уздымала
І заслужана,
І не.
І не раз пад дых давала,
Без разбору —
Вам і мне.

Разбаўляем мы «бывала»
З тым, што будзе —
Напалам.
Верым — усяго нямала
Яшчэ будзе —
Мне і вам.

# Перад Гіпакратам

Знакаміты акцёр
ці пісьменнік вядомы,
Захварэў, памірае —
хутчэй ратаваць!
Лекі, сродкі ўсе кінулі,
вывелі з комы,
І хваробы, як кажуць,
нідзе не чуваць.

Не павінен у горы
застацца ніводны —
Хоць цэнтрыст, камуніст,
партакрат, дэмакрат.
Як жа правільна гэта
і высакародна,
Усе роўныя
перад табой, Гіпакрат…

Бог па-свойму
для кожнага ладзіць гасцінец,
Шчодра дорыць дабро,
не шкадуе і зла.
Вось старая бабуля,
ў вясковай глыбінцы,
Ад хваробы сваёй
знемагла і злягла.

Узгадавала дзяцей,
падсабляла і ўнукам,
І у горы, і ў шчасці
з Радзімай была.
Ўсё жыццё на зямельцы
гарбаціла крукам,
Працавала на ёй
ад цямна да цямна.

Старасць рэшткам гадоў
абнуліла ліміты
І хвароба руплівасць
вывальвае з рук…
Колькі з’еў той пісьменнік
й акцёр знакаміты
Хлеба ўзрошчанага
з-пад бабуліных рук?

Ёсць вядомыя — людзі
І ёсць — чалавекі,
(Што з пустога ў парожняе пераліваць?)
Для бабулі не кінулі
сродкі і лекі,
Каб яе, спрацаваную,
уратаваць.

## Людзі і кніжкі

О колькі людзей
 за жыццё перабачана,
Сяброўстваў правераных, новых.
Жыццю за цікавых
 знаёмых удзячны я
І не — за людзей выпадковых.

Знаёмства з аднымі
 мінала хвілінкамі,
Імгненнямі —
Ледзь і прыкмеціш.
Духоўна ж мой лёс
 ўзбагачаўся адзінкамі,
Якіх вельмі мала на свеце.

Я й кніжкі чытаю
 удзячна й расчулена,
Яны, нібы людзі гавораць:
Адны прачытаеш —
 і час толькі згублены,
Другія — духоўна адораць.

## У дзецях – мы

У нашых дзецях — мы:
І дабрыня,
І жорсткасць,
Свет зычны і нямы
Антыхрыснасць і Боскасць.

Мы дзівімся — адкуль
Такое ў нашых дзецях?
Яны — то ледзь не нуль,
То лепшыя у свеце.

Усіх мяняе час
Й дзяцей безабаронных.
Яны бяруць ад нас
Па кропельцы,
Штодзённа.

І слоўнік нашых слоў,
І ўчынкаў нашых нізкі,
І да жыцця любоў,
І — не заўжды да блізкіх.

## Свае шляхі

Хоць золатам<br>
          наўкола вымасці<br>
Дарогі ўсе —<br>
          хоць шоўкам высцелі,<br>
Духоўна ж творчыя<br>
Магчымасці<br>
Па іх не пойдуць<br>
          за адкрыццямі.

Дарогі,<br>
Іншымі стаптаныя,<br>
Для паслядоўнікаў —<br>
          бясплодныя.<br>
Для творчасці<br>
          заўжды жаданыя<br>
Свае шляхі —<br>
Першапраходныя.

Вунь колькі творцаў,<br>
          што з прылежнасцю,<br>
Свой шлях<br>
          шукаюць засяроджана.<br>
Хоць творчасць<br>
          слынная бязмежнасцю,<br>
Ўсё ходжана ў ёй,<br>
Пераходжана.

## Зайздрошчу

Зайздрошчу ветру
Белай зайздрасцю,

Зайздрошчу сонцу
Светлай радасцю.

Зайздрошчу раніцы
Душой малечаю.

Жыццём разважлівым
Зайздрошчу вечару.

Зайздрошчу месяцу
І небу зорнаму.

Ды не зайздросціў век
Зайздрасці чорнай я.

## Узнагароды

Унук, якому ўжо
другі гадок,
Ля дзеда завіхаўся заліхвацкі.
— Ты растлумач мне,
дарагі дзядок,
Што гэта на грудзях
тваіх за цацкі?

Стары крануў
рукою медалі
З заслужанай пашанай,
як заўсёды,
Узяў на рукі
хлопчыка з зямлі.
— Дык гэта, ўнучак мой,
Узнагароды!

Медаль вось гэты —
за дзіцячы лёс,
Каб кожны нараджаўся
вольным птахам,
Каб кожны з вас
Пад мірным небам рос,
Не ведаючы
ні вайны, ні жахаў.

А гэты вось медаль —
за родны кут,
Які ў вайну гарэў,
стагнаў ад болю,
Медаль за тое,
каб ізноўку тут
Захопнік-злыдзень
не ступаў ніколі.

А гэты вось медаль
            і два другіх —
За баявыя страты і нягоды,
Каб чалавецтва
            памятала тых,
Хто на вайне
            застаўся назаўсёды.

А гэта, ўнучак.
            ордэны — яны
Ўслаўляюць нашу
            ратную дарогу,
Як ўсяго свету
            дочкі і сыны
Услаўляюць дзень Вялікай Перамогі.

І хоць не ўсё
            «дайшло» да хлапчука,
Расповед дзеда
            выслухаў з увагай,
І ўзнагароды ўнукава рука
Кранула па-даросламу —
З павагай.

## Праспаны час

Ах, як шкада,
 што сонца села,
Хоць лбом у дрэва трэсь.
А я ж яшчэ
 душой і целам
Увесь у працы —
Ўвесь.

Чаму ж так позна
 сонца ўстала?
Час шмат падзей нясе.
Мне будзе дня
 і сёння мала
Адолець іх усе.

Адолець…
Лёгка на паперы,
На справе —
 штось пад дых.
Зусім не цяжка
 мець намеры,
Цяжэй «памацаць» іх.

Чаму жыццё
 так нечакана
Між спраў спыняе нас?
Штось распачаць
 хацеў старанна,
Ды адкладаў —
 паспею, рана…
Бывай, праспаны час.

## Два крылы?

Ўсё будзе паўтарацца,
Ў прагрэсу дзве шчакі —
Асветніцтва
І праца,
Два крылы на вякі.

Астатняе — падпоркі,
Падпаскі,
Руху край,
Як ля гары пагоркі,
Як ля ракі ручай.

---

Прабачце, калі ласка,
Мне моўныя грахі —
Выпасваць статак цяжка,
І бегаюць падпаскі
Не менш,
Чым пастухі.

## Партытура душы

Сімфонія восені,
          лета раманс,
Вясны
Няўміручае
Сола,
Даюць унікальны
          для кожнага шанц
Адчуць
Жыццясілу
Наўкола.

І фортэ,
І п’яна,
Мінор
І мажор —
Мелодыя лёсу святая.
І кожны —
Сваіх партытур дырыжор,
Якія
Душа
Адчувае.

## Так і штарміць

Ад першага дня
да апошняга дня,
То ўздыме жыццё,
То абрыне.
І кожны мой твор
для мяне – вышыня,
І кожны мой зборнік –
Вяршыня.

Вось так і штарміць
мой няўрымслівы лёс,
Ды так, што ў вачах,
часам, цёмна.
На горкіх няўдачах
вучыўся я й рос –
Настырна,
Няўхільна,
Нястомна.

## Чакайце дзесяты

Ці будзе восьмы том?
Чакайце і дзесяты,
Калі яшчэ пажыць
дазволіць Бог.
Я, як: ўсе жывыя,
надзеямі багаты,
Яны мяне
і вабяць за парог.

Калі й прыцішу рух,
дык толькі на хвілінку,
Асэнсаваць –
што змог я,
што не змог.
А ўвогуле душы –
Ні сну, ні адпачынку –
І зноў –
калі пажыць дазволіць Бог

## Пішу аўтарытэтна

Жанчыны — штосьці лішняе на свеце,
З жыцця бы ўзяць
　　　　і вымесці іх вон.
Адзінае — што ад жанчыны дзеці,
А болей што?
Абман і пустазвон.

Мяне жанчыны
　　　　ласкамі сваімі
Не ўзрушаць,
Не запаляць ні за што
І мне чамусьці нецікава з імі,
Хаця вакол мяне іх будзе сто.

Я ад сябе
　　　　ганю іх без затрымкі,
Ім не сагрэцца
　　　　ля агню майго.
Навыдумлялі нейкія абдымкі
Ды пацалункі —
Што тут да чаго?

Жыву і без жанчыны я імпэтна,
Жыццё з жанчынай —
　　　　воцат, а не мёд.
Пра гэта ўсё пішу аўтарытэтна,
Бо мне ўжо хутка
　　　　восемдзесят год.

## Раскрыты сакрэт

Лявон ля Сымона
сядзеў, прагаворваў,
Дыміў цыгарэтай
між слоў.
— Ты ж бульбу сваю
на тым тыдні аборваў,
А сёння — за плугам
быў зноў.

Ёй, бульбе тваёй,
там спакой толькі сніцца,
Дай ёй ачуняць
хоць дзянёк.
Павінна хоць трохі
яна ўкараніцца,
Ты ж торкаеш плугам пад бок.

Сымон у адказ
запытаў хітравата:
— Скажы, як на споведзі мне,
Ты бульбы штогод
выбіраеш багата?
Лявон сумна выдыхнуў:
— Не…

Якія ўраджаі?
Не бульба — арэхі,
Буйней
На руках мазалі.
Ніякай аддачы,
ніякай уцехі
Ад поту,
Ад працы,
Зямлі.

— Дык вось дзе тваіх
неўраджаяў прычына! —
Лявону Сымон дадае:
— І бульбачка любіць,
нібыта жанчына,
Каб хтосьці пад бок
яе кратаў няспынна,
Каб хтосьці
варочаў яе.

Ты жонку сваю,
вазьмі ноччу, пакратай,
А ранкам —
бліны ад душы.
І бульба заўжды
ураджай дасць багаты,
Ты толькі яе варушы.

## Жартам і ўсур’ёз

Вунь, на лаўцы
сядзяць мужыкі
Састарэлыя.
Побач ля іх,
Паважанага веку жанкі —
Успамінамі дзеляцца ўслых.

Хтосьці скардзіцца,
ў некага — смех,
Пэўна, праўда гучыць і мана
Хоць падслухваць,
схаваўшыся — грэх,
Ўсё ж цікава,
аб чым гамана.

— Не зайздросьце вы,
людцайкі, мне,
Бо жыву я ў штодзённай трывозе,—
Як калгасны гарох пры дарозе —
Хто ні едзе,
ні йдзе — ушчыкне.

— Я ў сумненнях
па вушы загруз,
Быццам ноччу
плыву на плыце,
Бо, прабачце,
жыву, як гарбуз —
Кончык сохне,
а пуза расце.

— Ды і я дажываю гады,
Як нічыйная яблынька — жуць,

З якой палкай
збіваюць плады
Ці бязбожна —
трасуць і трасуць.

— Цябе шчы́кнуць,
яе ж — страсяне,—
Чуем голас,— То ж шчасце у лёсе.
Хто б шчыкну́ў ці патрусіў мяне —
Мо «гарбуз»?
— Не, сваё я адтросся…

Што ж, відаць,
адзіноты яны,
Ды і кожнага,
ў старасці лёс —
Охі, ахі, ўспаміны ды сны,
Хтось жартуе,
а хтосьці ўсур’ёз.

## Як бы...

Суддзя
Перапытаў у пацярпелай:
— Скажыце нам,
у чым яго віна?
Ўсё падрабязна
выкладзіце смела.—
І праз хвіліну
«выклала» яна:

— Ўсё, як бы,
адбывалася ў суботу,
Спяваў салоўка,
дзіўны вечар быў.
Мы, як бы,
цалаваліся ў ахвоту,
Затым мяне ён,
як бы, спакусіў.

— І што далей? —
суддзя удакладняе,—
Тлумачце,
Па магчымасці, ясней,
— Вы ж бачыце,
мех шыла не схавае,
Я, як бы,
зацяжарыла пазней.

А ён цяпер,
як бы спакусік гэты,
Хвастом віхляе —
як бы, я ні я.
Няхай жа суд
раскрые ўсе сакрэты:
Яго віна тут?
Ці віна мая?

На вашым месцы,
суд высокі, я бы
Не шкадавала
крымінальных спраў.
Суддзя сказаў:
— Паколькі ўсё ў вас «як бы»,
Дык я яго ўжо,
як бы пакараў.

## Пакуты

Ён ажаніўся з маладой,
Стаў жыць з двума —
З ёй і бядой.
Бяды у тым прычына,
Што сам ён, як жанчына
Пакутуе й малодка —
Што грошы ёй?
Што шмоткі?
Шлюб па разліку — язва,
Не муж, а толькі назва.
Ці ж кветка і ражон — сям’я?
А ён пакутуе ўдвая —
Ідзі яно ўсё прахам.
Ён ноч чакае з жахам.
Ёй ноччу трэба «рысака»,
А ён на бок — і храпака.
Яму секс толькі сніцца…
Нашто было жаніцца?

## Прыпеўкі

Напампуюць дзеўкі пысы
Й цешацца дурыслінай,
Нібы сярод лысых лысы
Ганарыцца лысінай.

Стараваты, барадаты —
Якасці не ўразілі.
Пайду замуж, бо багаты —
Грошы пераважылі.

Падкаціўся прайдзісвет
Да мяне праз інтэрнэт.
Кажа, што і нашы дзеці
Родзяцца у інтэрнэце.

Ўсё ад чалавека — Мека
І царква, і дыскатэка,
Злыдні, чарнакніжнікі,
Ва ўсіх на шыях крыжыкі.

Чалавек без выхавання,
Як каханне без кахання.
Дзеянні без роздуму,
Як мазгі без розуму.

## На попугаев мода

*Поэма*

Мы направленья стиля
Меняем год от года.
Европу охватила
На попугаев мода.

Экзотики теченье
Вливалось бурно в массы.
Рождали восхищенье
Их виды и окрасы.

Они —
Барьер от стресса,
Для нервов —
Выброс пару.
И вот одна принцесса
Купила себе пару.

Был попугайчик — Попка,
А попугайка — Попа.
Себя вели не робко
С принцессой Пенелопой.

Болтали с нею мило,
Слов выучили разных.
Она их полюбила,
Своих друзей прекрасных.

Но ни единой пищей
Живем на этом свете.
И сердце сердце ищет,
Плетя искусно сети.

И Пенелопу тоже
В мечтах манило сладко
Супружеское ложе,
Влюбленности загадка.

*

Однажды к Пенелопе,
Просить руки и сердца,
В карете приголопил
Со свитой юный герцог.

Уклад дворцовый сонный
Встряхнул визит пикантный —
Ужимки и поклоны,
И по уши влюбленный
Сам герцог элегантный.

И замелькали пышно
Балы, балы, обеды.
А в парке — «третий лишний»,
С глазу на глаз беседы.

Как и во все эпохи
Беседы эти знаем —
Он ей — про ахи, вздохи,
Она — про попугаев.

Тогда затронул шире
Ее он интересы:
— Что больше в этом мире
Вы любите, принцесса?

Он так и замер стоя,
Услышав Пенелопу:
— И хоть люблю его я,
Но все же больше Попу.

Он покраснел, смутился,
Подумал герцог кроткий:
«А я чуть не женился
На этой поп-красотке…»

Но девушку догадка
Внезапно осенила.
Она, вздохнув украдкой,
Ему сказала мило:

— Не дуйтесь, негодуя,
Я объясню, в чем дело.
Идемте, покажу я,
Кого в виду имела.

Простите Пенелопу,
Идемте ж, герцог робкий,
Я покажу вам Попу,
Увидите вы Попку.

У герцога дар слова
Отнялся от конфуза.
Но впереди шок новый
Ждал юного француза.

Не знала Пенелопа,
Что при дворе французском,
И Попка, да и Попа,
(На то это Европа)
Владели тайно русским.

А вот сама принцесса,
Не полиглоты-птички,
По-русски — ни бельмеса,
От герцога в отличье.

И, стоя возле клетки,
Принцесса засияла:
— Сейчас вам эти детки
Покажут дар свой редкий
Средь интеллектуалов.

Блесните Божьим даром,
И не молчите кротко,
Восславьте гостя с жаром,
Ты, Попа, и ты, Попка.

Для вас — экзамен главный,
Для нас, святое место,
Пред вами герцог славный
И я — его невеста.

И сдал дуэт «экзамен»
На русском, на крылатом.
И герцога «восславил»
Пятиэтажным матом.

Принцесса хохотала,
Не разобрав ни слова.
А герцог за́дал драла,
Прочь от венца такого…

---

Времен прошло не мало
С указанного года.
И как-то вдруг отпала
На попугаев мода.

## Эпиграмма

«Мой офис —
Для идей приют,
С утра гудит,
Как улей.
Весь день
Мои друзья снуют
И я меж ними —
Пулей».

Так горячо приятель мой
Расхваливал мне офис свой.

Тогда я,
Отметая лесть,
Задал вопрос
Попутный:
— Царица-матка
В улье есть
Иль царствуют в нем
Трутни?

# Дзень – ноч

1
Я — з запытам да Бога:
— Што творыш спадцішка?
Больш дужы есь слабога,
Багаты — бедняка.



2
Знямоглы — без надзеі,
Сумленным — голь і жуць.
Затое прахіндзеі
І стрыжаных стрыгуць.

3
Я Бога — хваць за грудзі:
— Няўжо не чуеш плач?
Ці ж твае дзеці, людзі,
Ўсе роўныя?
Пабач!

4
Ты хто? Грахоў нашчадак?
Заеўся ў вышыні?
Хутчэй наводзь парадак
У кожным лёсе, дні.

5
Бог усміхнуўся сумна
І выдыхнуў з-за хмар:
— Калі такі разумны,
Вось німб табе.
Ўладар!

*

6
Я — Бог!
Вяршыцель лёсаў!
Знай, чалавечы род —
Ўладыка я нябёсаў,
Ўладыка сушы, вод.

7
Я — над усім сусветам,
Вы — пада мною ніц.
Я — ў свеце тым і гэтым,
З зародка да грабніц.

8
Стагоддзяў смерч вірлівы
Знявечыў лёсаў шмат.
Я ж — самы справядлівы,
Ўсё адкручу назад.

9
Здрапежаных — адноўлю,
Забітых — ажыўлю.
І зло абезгалоўлю
Й дабра новабудоўлю
Прываблю на зямлю.

*

10
— З чаго ж пачаць?
Пытанне…
Я разважаю ўслых.—
Найперш пачну вяртанне
Забітых да жывых.

11
Я раптам нос павесіў —
Што за праява?
Што?!
Тут аднаго ўваскрэсіў,
А там забілі сто.

12
Са мной мой жах застылы —
Адкуль такое зло?
Там — сто падняў з магілы,
Тут — безліч палягло.

13
Я бедных у багатых
Ператварыў за раз.
Ў палацах, а не ў хатах
Жывуць яны ўвесь час.

14
Шыкоўнае адзенне,
Напоі і яда.
Але сыйшло сумленне
Як праз пясок вада.

15
На іх ад трубаў медных
Зажэрнасці пячаць.
Як самі колісь, бедных,
Ўзлюбілі прыгнятаць.

16
Шчаслівых наствараў я —
Мо час пакут міне?
Але і тут бясслаўе
Падсцерагло мяне.

17
І тут — адны напасці,
І тут — няўдаўся цуд.
Для многіх грошы — шчасце,
Нажыва, гулі, блуд.

18
Я — хуценька да Бога.
— Вось німб святы. Вазьмі!
Бо не стварыў нічога
Я добрага з людзьмі.

19
Я нават ім надзею
Не падарыў — хоць плач.
Чаму?
Не разумею.
О Божа! Растлумач.

20
Адказ быў невясёлы:
— Ёсць Д’ябал, сын начы,
Ён палкі ткне у колы,
Ён шкодзіць, хоць крычы.

21
Як сонечнай вясною,
На небе хмара й гром,
Так Д’ябал — паміж мною,
Між мною і дабром.

*

22
Я разважаў, пры гэтым:
— Ёсць і над Богам моц…
Дык вось чаму над светам
Спрадвек — то дзень, то ноч.

23
Я святасць рву з карэннем,
І зноў імкнуся ў бой.

Да Д’ябла я з прашэннем:
— Дазволь пабыць табой!

24
Я нечакана, здуру
Аддаў яму душу.
— Што ж, лезь у маю скуру! —
Мне Д’ябл сказаў.— Прашу!

25
З усіх характарыстык
Я выбраць гэту змог.
І я цяпер — нячысцік,
Цяпер я — анты Бог.

*

26
Вунь, чалавек сумленны
Сабраўся штось купляць.
А я шапнуў імгненна:
— Нашто купляць?
Украдзь!

27
Ёсць іншая нажыва,—
Шапчу, каб мог ён чуць,
— Ты на судзе ілжыва
За грошы сведкам будзь…

28
Юнак з сваёй дзяўчынай
Вянок кахання ўе.
Яму я: — будзь мужчынам,
Не баўся, згвалць яе.

29
І крадуць,
Гвалцяць,
«Сведчаць»,
І твараць жах і жуць,
Бо Д’яблы ў душы шэпчаць
І ў колы палкі ткнуць.

30
Мы хрысцімся, як грымне
Над кожным з нас бяда.
Да Д’ябла я:
— Вярні мне
Душу маю, брыда!

31
Ў адказ пачуў я рогат
І здзекі — у адказ:
— Табе такая тога
З рагамі — самы раз.

32
Як кажуць, супраць лома
Нішто не возьме верх?..
Лёг Д’ябал нерухома —
Я на душу свядома
Прыняў і гэты грэх.

*

33
І зноў я перад Богам
У выглядзе сваім.
Я — грэшнік, я — нябога,
Вяду размову з ім.

34
— Ў чым ісціна? — пытаю,
Хоць холад па спіне,
— З якога яна краю?
Ці ёсць яна?
Ці не?

35
Я, Ойца наш, пра тое —
Што́ ёсць — дабро і зло?
Я сеяў штось святое,
Ды мала што ўзышло.

36
Я Д’ябла укакошыў,
Каб зніклі жуць і голь,
Як зло, знішчаў я грошы,
Я нішчыў алкаголь.

37
Я рос, змагаўся, кленчыў,
Рабіў усё, што мог,
А зла ў жыцці не зменшыў
Й дабру не дапамог.

38
Жыву дарэмна, можа?
Што́ ўсім з жыцця майго?
Ты растлумач мне, Божа,
Мы, людзі, для чаго?

*

39
Хто жыць не хоча — гіне,—
Адчуў я слоў цяпло.—
У кожным з вас, мой сыне,
Дабро жыве, і зло.

40
Дабро — заўжды святое,
Зло — цемрыць на вяку.
Перамагае тое,
Хто з вас на іх баку.

42
Каб з лёсаў золак шэры
Задумак злосных збег,
Дапамагае вера —
Святога абярэг.

43
Зграшыў, мой сын, пакайся!
Ты чуў, што кажа люд:
— На бога спадзявайся,
Ды сам не лезь у бруд.

## Янка

Усхапіўся Янка,
Хлопчыку не спіцца.
Ён у полі зранку,
Бліжай да зямліцы.

Далягляды вабяць—
Гэта не забава.
Хлапчука цікавіць
Кожная праява.

Ад чаго разгульна
Ветру ў паднябессі?
І чаму няўтульна
Ветру ў цёмным лесе?

І чаму раздольна
Сэрцу ў чыстым полі,
А у хаце вольна
Не было ніколі?

Птушак — незлічона,
Рознае пароды,
Ды пяюць натхнёна
У свой час заўсёды.

Хтось руладзіць рана,
Хтось спявае ўночы.
Складна хтось, складана,
Нехта, як званочак.

Ды і ў лузе кветкі
Свайго часу прагнуць.
Вунь дубкі-падлеткі
Ў высь галінкі цягнуць.

Ўсё цікавіць Янку —
Матылькі і зёлкі,
Спрытныя маланкі,
Дзіўныя вясёлкі.

Янка ў хваляванні
Сярод мар блукае.
І на ўсе пытанні
Ён адказ шукае.

*

Падрастае хлопча,
Думкі ў вершы ніжа.
І цяпер ён хоча
Да людзей быць бліжай.

Шмат і тут пытанняў,
Як тады ў прыродзе —
Скуль паны і пані
Скуламі ў народзе?

Багацеюць шыбка,
Не глынуўшы поту,
Бо дзяруць, як ліпку
Горкую бядноту.

Ў свет кладзе пракосы
Словам вершаваным,
Каб палепшыць лёсы
Людзям змардаваным.

Ратаваў ад бедаў
Лёс людзей пахілы.
Ён яшчэ не ведаў
Свайго слова сілы.

І не сніў, што слова,
Не саступіць зброі.
Проста мысліў нова,
Проста светла мроіў.

*

Ў свеце праўды мала,
Ў свеце шмат заганы.
Хтось стварыў няўдала
Свет неўладкаваны.

Ні дабра, ні ладу,
Ні спадзеўкі ў сэрцы,
Хоць працуй да ўпаду,
Хоць гарбаць да смерці.

Мёрлі ў брудзе й поце,
У бяспраўе ўросшы.
Большасць — пуста ў роце,
Меншасць — у раскошы.

Ў свеце шмат нядолі,
Ў свеце праўды мала —
Гэта Янку болем
Сэрца разрывала.

Ён з людзьмі трывае,
Ўсёй душою з імі,
Але болей дбае
Сэрцам аб Радзіме.

Лёсы хаатычна
Лепшыць немагчыма.
Толькі заклік зычны
Схамяне Радзіму.

Заклік канчаткова
Гнеў людзей разпрудзіць
Толькі праўды слова
Кожны лёс абудзіць.

*

Сярод іншых вершаў,
Твораў вершаваных,
Янка помніць першы —
«Мужык» — многім знаны.

«Не мужык дурны я,—
Думаў Янка ўпотай,—
Не дурныя й тыя,
Сцятыя беднотай.

З поглядам цвярозым
Кіньце кут запечны,
Пакажыце розум,
Розум свой адвечны.

Новага радзіны
Святкуйце супольна,
Разагніце спіны,
Удыхніце вольна.

Ваша несвядомасць
Лёсы вашы межыць.
Хто вы ў сваім доме —
І ад вас залежыць…»

Макар нервова ўстаў.

— Сёння гаворка ў нас не атрымаецца. Бывай!

*

На жаль, гэта была апошняя гаворка двух сяброў.

Усе мы пад Богам, і толькі ён ведае, каму з кім і колькі яшчэ суджана наталяць душу гаворкай.

Нечакана, а смерць заўсёды прыходзіць нечакана — Макар памёр.

Смерць чалавека — заўсёды трагедыя для родных, блізкіх, знаёмых. У вёсцы такая трагедыя праяўляецца асоба, бо вяскоўцы спрадвеку, як адна сям’я.

Вось і Макара праводзілі да могілак усе, хто мог кратацца. Могілкі ад вёскі знаходзіліся недалёка, таму жалобная працэсія паціху рухалася за дамавінай, у якой пагойдваўся, калісьці працавіты і шчыры Макар.

У канцы працэсіі, баючыся, каб не адстаць, ледзь перастаўляў ногі, гэткі ж спрацаваны і шчыры, як гаспадар, Гняды.

# Важная карова

Паехалі дзед з бабай на базар прадаваць карову. Не таму, што карова была благая, а таму, што не было ўжо сіл у дзеда касіць сенажаці ды рыхтаваць на зіму сена. Старая таксама, бывала, сядзе на зэдлічак даіць карову ды і прыдрамне. Чакае, чакае бедная жывёліна, калі ж гаспадыня да вымя хоць дакранецца, не дачакаецца і пойдзе з хлява на выган. Прачнецца баба, зірк у даёнку, а яна пустая.

Дома дзеду скардзіцца:

— Перастала наша Красулька малако даваць зусім. Вось, з пустой даёнкай прыйшла. І хоць шкада яе, а прадаваць прыйдзецца.

Крыўдна кароўцы ад такіх слоў. А паколькі размаўляць яна не ўмела і падаіць сама сябе таксама не магла, ішла яна зараз за сваімі гаспадарамі няведама да каго.

На базары пакупнік знайшоўся адразу, бо Красуля была яшчэ маладая і даволі гладкая.

— Колькі хочаце, старая, за сваю клячу? — гукнуў ён да дзеда і бабы.

Дзед вымкнуўся першы:

— Сто рублёў!

Баба ажно падскочыла на возе.

— Дзвесце!

Пакупнік не зразумеў:

— Дык сто ці дзвесце?

— Я сказала дзвесце! — не адступала баба.

Дзед ціскануў плячыма:

— Я б і на сто згадзіўся…

Пакупнік зноў пачуў:

— Сто!

— Дзвесце!

— Сто!

— Дзвесце!

Паколькі Красуля варта была і больш, чым нават дзвесце рублёў, і пакупнік гэта добра разумеў, ён сунуў бабе ў рукі дзвесце рублёў, сам за вяроўку, якая была на шыі Красулі і падаўся з ёй прэч.

Едуць старыя дамоў, цмокаюць на коніка, абураюцца:

— І што гэта мы нарабілі? Такую спраўную кароўку збылі. Без яе, хоць дамоў не едзь.— прычытае баба.

Дзед згаджаецца:

— А я што, зломак? І сена магу яшчэ назапасіць, і хлеў вычысціць. Жывую душу за нейкія паперкі аддалі. Век зжываем, а не паразумнелі.

— Сіротамі мы зрабіліся з табой, стары — усхліпнула старая. Затым, відаць, каб змяніць настрой, пачынае пілаваць дзеда:

— Уторкнуў ты свой доўгі язык упоперак маіх намераў. Я ж хацела патаргавацца ды падняць цану вышэй, ажно да трохсот рублёў.

Дзед адчуў, што трэба неяк ратавацца, бо загрызе яго жонка, пакуль даедуць дадому.

Стары хітруе:

— Навошта ж ты схапіла дзвесце рублёў? Я ж меркаваў так: мае сто рублёў, што я запрасіў, і твае дзвесце, што ты запрасіла, мы складзем — вось і будзе трыста. Так што свой язык я ўторкнуў правільна, а ты ў камерцыі нічога не разумееш.

Старая разгубілася:

— Глянь ты… Дык сапраўды ж атрымлівалася трыста рублёў… Дзе былі мае мазгі? Можа, вернемся?

— Шукай яго цяпер! — уздыхнуў дзед, а сам у душы радуецца, што так спраўна адбрыкаўся ад старой.

Раптам ён схамянуўся:

— Ты ж схапіла грошы, не лічачы, жменяй. Там я бачыў былі і дробныя, і розныя. Пералічы!

Дзед спыніў каня і чакаў, пакуль жонка разбярэцца з фальбонамі спадніцы і дастане грошы.

Старая доўга корпалася ў сваіх «парадных» і сподніх спадніцах, нарэшце глуха прастагнала:

— Няма грошай… Мусіць згубіла…

Дзед спрытна памкнуўся да жонкі:

— Дай я пашукаю!

— Цябе толькі тут і не хапала. Што я сваіх спадніц не ведаю? Сказала, няма грошай, значыць няма!

— Разява! Варона! — абурыўся дзед,— Табе хоць дзвесце, хоць тысячу рублёў давай, адна трасца. Во з’ездзілі на базар, дык з’ездзілі. Ні каровы, ні грошай. А ў дадатак да ўсяго, не давядзі Гасподзь, даведаюцца аднавяскоўцы, праславімся на ўсю губерню. Цьфу!

Баба сядзела моўчкі, як мыла з’ела. Ды і што тут скажаш — вінаватая.

Раптам з-за павароту дарогі паказаўся той пакупнік, які вёў за сабой на вяроўцы Красулю.

Старыя, як па камандзе, па маладзецкі скокнулі з воза і — да пакупніка.

Але той іх апярэдзіў і дзівіцца ўголас:

— А-а, дык мы з вамі, аказваецца адной дарогай кіруемся. Вось не спадзяваўся вас болей убачыць.

— А мы спадзяваліся! — ў адзін голас усклікнулі старыя.— Толькі пра цябе і думалі.

Незнаёмец дзівіцца яшчэ болей:

— А навошта я вам так патрэбен? Мы ж з вамі, згодна тэорыі Маркса ўсё зрабілі чэсць па чэсці: тавар-грошы-тавар. Што яшчэ трэба?

Старая падскочыла да пакупніка.

— Не ведаю, што там выдумляе твой Марк, а ў нас тут, толькі тавар ёсць — наша Красуля, а грошай няма.

— Што, паспелі прапіць? — з'ёрнічаў незнаёмец,— Але ж вы цвярозыя.

— Ты хвастом не круці,— насядала баба,— мы грошы згубілі, а ты іх знайшоў.

— Я?! — зачырванеўся пакупнік. Як вам такое магло прыйсці ў галаву?

Тут ужо не стрымаўся і дзед:

— А так! Нас ніхто на дарозе не абганяў, а след за намі ішоў толькі ты. Так што, вярні нам нашы грошы!

— А вы іх, магчыма, на базары пасеялі,— не здаваўся новы гаспадар Красулі.

Баба ўдакладніла:

— Я, выязджаючы за горад, мацала іх, яны былі пры мне. Вярні, чалавек, грошы і жыві з Богам, інакш перад суддзёй адказваць будзеш.

— Ха-ха-ха! — зарагатаў незнаёмец,— і як гэта ваш суддзя дакажа, што я знайшоў грошы? Хадземце да суддзі, я ажно згараю ад цікаўнасці.

Раённы суддзя выслухаў абодва бакі і ўдакладніў, звяртаючыся да пакупніка:

— Вы заплацілі ім дзвесце рублёў за карову?

— Так, грамадзянін суддзя!

Затым суддзя звярнуўся да старой:

— Вы атрымалі ад яго дзвесце рублёў?

— Так, таварыш суддзя!

Суддзя працягваў допыт:

— Вы, шаноўная кабета, сцвярджаеце, што дзвесце рублёў згубілі?

— Так, таварыш суддзя.

Суддзя звярнуўся да пакупніка:

— А вы сцвярджаеце, што грошай не знаходзілі?

— Так, грамадзянін суддзя, не знаходзіў.

— Так, не знаходзіў ці не, не знаходзіў? — перапытаў суддзя.

Незнаёмец зачырванеўся:

— Не, не знаходзіў.

— А ведаеце што? — звярнуўся да яго суддзя,— я б хацеў купіць, дакладней, перакупіць у вас гэтую карову. Можа, дамовімся?

Пакупнік нервова пракручваў у галаве розныя варыянты: «Суддзя штосьці дагадваецца, возьме ды яшчэ прышпіле пакаранне…»

Нарэшце пакупнік, цяпер ужо прадавец, спытаўся:

— А колькі вы даеце за яе?

— Сто рублёў! — не вагаючыся назваў цану суддзя.

Незнаёмец зноў ліхаманкава падумаў: «Дзвесце рублёў я знайшоў, сто рублёў будзе яшчэ — вось і трыста… Ды што я губляю? Сто рублёў чыстага навару».

— Згодзен! — згадзіўся незнаёмец,— Карова ваша!

Суддзя ўсміхнуўся:

— Карова не мая і не ваша, а гэта карова належыць вось гэтаму дзеду і гэтай бабе.

— Чаму? — падскочыў незнаёмец,— Я за яе заплаціў дзвесце рублёў!

— Вы іх, гэтыя грошы знайшлі і прысвоілі сабе. Хіба ж можа чалавек, які заплаціў за штосьці дзвесце рублёў, прадаць гэта штосьці за сто? І потым: вы ўвесь час называлі мяне «грамадзянін суддзя». Кажуць жа — на злодзеі шапка гарыць. Так што, калі не хочаце афі-

цыйнага судовага расследавання і, як вынік, пакарання, вярніце старым іх карову, бо грошы, якія вы знайшлі, яны ў вас ужо не возьмуць. Вашы грошы — брудныя.

У цудоўным настроі вярталіся дамоў дзед і баба, якія былі вельмі рады, што Красуля засталася з імі.

Дзед паціху накошваў за лета сена, а баба болей ніколі не засынала на зэдліку і кожны раз з гонарам казала дзеду:

— Добра што не прадалі такую важную карову, вось, поўную даёнку малака дае!

# Разумнік

Адной, даволі вядомай дзяржавай, кіраваў не менш вядомы кароль Лагода.

І вось гэты кароль вырашыў аддаць замуж сваю адзіную дачку Куксу. Як гэта і павінна быць ва ўсіх казках, кароль паабяцаў таму, хто жэніцца з яго дачкой, будзе, у якасці пасагу, аддадзена паўкаралеўства.

А дачка, хоць і мела імя Кукса, і часцяком куксілася без аніякай на тое падставы, была ўсё ж прыгажуняй, як і ўсе дзеці тагачаснага і сучаснага кіраўніцтва.

Але яна, гэта прынцэса, будзь хоць апошняй страхалюдзінай, усё роўна прываблівала б жаніхоў, не горш, чым ліпучка мух, бо хто ж адмовіцца ад паўкаралеўства?

Вось каб кароль абвясціў, што аддае дачку замуж у тым, у чым яе маці нарадзіла, паглядзелі б мы, ці шмат было б ахвотнікаў.

Але, паколькі ў перадвясельным кантракце першым пунктам было паўкаралеўства, а ўжо за ім упаміналася Кукса, чарга з жаніхоў да каралеўскага палацу была неверагодна вялізная.

Ды ўсе жаніхі расфуфыраныя, ды ўсе з падарункамі, ды ўсе ажно згаралі ад нецярпення.

Чарга была такая доўгая яшчэ і таму, што кароль. абвяшчаючы сваіх падданых аб выданні замуж дачкі, дадаў у свой Указ і такія словы: «…а хто адмовіцца ад маёй Куксы, таму галава з плеч.»

А трэба сказаць, што прынцэса Кукса была вельмі пераборлівая, нават невыносна капрызная.

Жаніхам яна давала вельмі хутка ад варотаў паварот. То ростам быў малы, то другі — занадта высокі, то ў аднаго нос кручкаваты, то ў другога гузікам, то вушы вялікія, то ногі крывыя і гэта «то» можна пералічваць і пералічваць да бясконцасці.

Адным словам — капрызуля.

А быў у гэтым каралеўстве адзін малады хлопец, які па-сапраўднаму кахаў Куксу, і ведаў, што ў яго няма аніводнага шансу заваяваць сэрца прынцэсы, бо быў ён не знатнага роду, у яго нават і падарунку для яе не было.

І хоць багацця ён не меў, затое Бог узнагародзіў яго розумам. І імя яму бацькі ў свой час далі, якое адпавядала яго інтэлекту — Разумнік.

Вось ён, гэты Разумнік, як кажуць, раскінуў мазгамі і вырашыў: чым піхацца дзень і ноч у чарзе, зраблю я наадварот.

І ён зрабіў. Абвясціў прылюдна, што адмаўляецца ад прынцэсы, не жадае ні яе, ні паўкаралеўства.

Ад такой дзёрзкай аб’явы, і адна палова каралеўства, і другая, аслупянелі ад жаху. Гэта ж трэба, чалавек добраахвотна падстаўляе галаў пад сякеру.

Чутка пра самазабойцу-жаніха дакацілася і да каралеўскіх, і да прынцэсавых вушэй.

Кароль не хацеў выглядаць перад сваім народам пустазвонам, таму падпісаў новы і вельмі кароткі ўказ: «Адсекчы галаву!»

Разумніка скруцілі, накінулі на галаву мяшок і кінулі ў каралеўскую кутузку да той пары, пакуль будзе пабудаваны на плошчы эшафот. Павінны ж падданыя бачыць, што з каралём небяспечныя жарты.

Але тут нечакана Кукса перастала куксіцца і капрызнічаць і звярнулася да свайго бацькі караля:

— Я хачу яго бачыць!

Кароль замахаў рукамі:

— Ды навошта ён табе? Я ўжо ўказ падпісаў аб адсячэнні яму галавы.

Прынцэса настойвала на сваім:

— Я хачу яго бачыць!

Тут, як і разлічваў Разумнік, спрацавала звычайная жаночая цікаўнасць. Хто ж ён за такі, які адмаўляецца і ад прынцэсы, і ад багатага пасагу? Самалюбства Куксы было балюча закранута за жывое.

— Я хачу яго бачыць! — паўтарала яна каралю.

Што было рабіць?

Прывялі ў прынцэсавы пакоі арыштаванага з мяшком на галаве.

— Усе свабодныя! — загадала яна ахове,— Я хачу пагаварыць са злачынцам без сведак.

Калі ўсе выйшлі за дзверы, Кукса, не здымаючы з галавы мяшка, спыталася ў Разумніка.

— Чаму ты, як усе жаніхі не стаў у чаргу?

— Я спрабаваў стаць у канцы чаргі,— адказаў голас з мяшка,— але канец чаргі ўпёрся ў далягляд і я не змог ушчаміцца.

— Як цікава! — здзівілася прынцэса і працягвала:

— А чаму ты, ведаючы, што табе за адмову ад мяне адсякуць галаву, усё ж адмовіўся?

Голас з мяшка адказаў:

— Я ж адмовіўся не ад цябе, прынцэса, а ад сваёй галавы.

— Зноў цікава! — усміхнулася прынцэса. Затым спыталася: — А чаму ў цябе на галаве мяшок?

Разумнік, які быў вельмі прыгожы, адказаў:

— Таму, каб не напалохаць цябе. У мяне вялікія вушы, касыя вочы, нос то кручкаваты, то курносы.

Прынцэса задумалася.

— А скажы, ты спрбаваў ушчаміцца ў канцы чаргі дзеля чаго: дзеля паўкаралеўства?

— Не! — рашуча адказаў Разумнік,— Паўкаралеўства мала, гэта такая дробязь. Я спрбаваў патрапіць да цябе, каб потым пакласці да тваіх ног, прынцэса, ўвесь свет, сонца, якое на д намі, усе зоркі, якія ў небе, усе кветкі, якія толькі растуць на зямлі. Таму, ад паўкаралеўства я б адмовіўся.

— Ого! — не стрымалася Кукса.— У цябе, такога лапавухага, касавокага ды разнаносага, такое ўзнёслае сэрца! Ні ад каго да цябе я не чула нічога падобнага. Шкада, што ты брыдкі на выгляд, але, спадзяюся, што мне ўдасца да цябе прывыкнуць. Я выбіраю цябе, незнаёмец!

І Кукса, упэўненая, што ўбачыць перад сабой брыдоціну, сцягнула з галавы Разумніка мяшок.

Эфект нечаканасці быў настолькі моцным, што прынцэса ўскрыкнула:

— Хто ты?! Чаму я раней ніколі цябе не бачыла?

Разумнік з цеплынёй адказаў:

— Я той, хто цябе даўно кахае і без паўкаралеўства, і без пасагу. Я той, хто гатовы аддаць сваё жыццё, каб толькі ты была шчаслівай. Я той, хто…

— Хопіць! — усклікнула прынцэса,— Я ўсё пачула сэрцам! Я ўсё ўбачыла сэрцам!

Неўзабаве ўсё каралеўства — і адна палова, і другая, было запрошана на вяселле Разумніка з Куксай, якая, дарэчы, перастала куксіцца і капрызнічаць.

Не скажу, што я быў на тым вяселлі, але чуць пра яго чуў.

# Некасавокі хітрун

Усім вядома, што цар усіх звяроў — Леў. Але ж львы ў нашых беларускіх лясах зроду не вадзіліся. Дык што? Нашы лясы аказваецца дакладней, звяры ў нашых лясах спрадвеку жылі сабе «самапасам», без цара? Ды і само слова «цар» рэжа вушы сваёй аджыласцю. Не, нам патрэбен… Як жа мы яго назавем? А-а, вось як! Няхай ён будзе гаспадаром лесу і, адпаведна, гаспадаром лясных жыхароў.

А паколькі самы дужы ў нашых лясах Мядзведзь, пасада гаспадара лесу дастанецца яму.

Вы скажаце, што ў нашых лясах ёсць і больш дужыя жыхары, напрыклад, зубры. Так, але ж зубры не звяры, а ледзь не хатнія жывёлы.

Таму Мядзведзь лігітымна прыступіў да выканання сваіх няпростых абавязкаў. Чаму няпростых? Таму, што варта толькі аб’явіцца таму, да каго можна звярнуцца са скаргамі, адразу пакрыўджаных знойдзецца нямала.

Вось і Заяц, даведаўшыся, што нарэшце ёсць галоўны над звярамі, з усіх чатырох лапаў лупянуў да Мядзведзя.

— Ну, што табе, касы? — запытаў, задаволены сабой і сваёй пасадай Мядзведзь.

Заяц, замест адказу, усхліпнуў:

— Ну вось і вы… А я бег да вас, дзядзечка Мядзведзь, шукаць справядлівасці, а і вы туды ж…

Мядзведзь здзівіўся:

— Хто цябе пакрыўдзіў? І ў чым я перад табой вінаваты? Смела выказвайся, не бойся.

Заяц пасмялеў:

— Справа ў тым, дзядзечка Мядзведзь, што ва ўсіх прымаўках, ва ўсіх казках, мяне ўсе называюць касым ды касым. З чаго гэта ці ад каго пачалося, не ведаю. Але ж я зусім не касы. Вочы як вочы — вось зірніце самі.

І Заяц уперыўся вачыма ў гаспадара лесу.

— Ну, бачыце?

Мядзведзь уважліва зірнуў Зайцу ў вочы і пацiснуў плячыма.

— Па мне, дык касавокасці няма… Але ж тут трэба афіцыйнае заключэнне, на спецыяльным бланку, з пячаткай. Нас, звяроў, абслугоўвае на паўстаўкі стаматолаг і акуліст Дзяцел. Вунь ён, на суседнім дрэве штосьці выстуквае, звернемся да яго.

Дзяцел паставіў перад Зайцам спецыяльную табліцу з літарамі рознага памеру і, прыкрываючы па чарзе вочы ў так званага «касога», папрасіў прачытаць тыя літары то адным, то другім вокам.

І, паколькі Заяц з лёгкасцю агучваў літары, Дзяцел зрабіў афіцыйнае заключэнне, што пацыент не страдае касавокасцю, інакш адно, касое вока, глядзела б у бок і не бачыла табліцы.

— Ну,— спытаўся Мядзведзь,— ты цяпер задаволены? Па лесе будзе абвешчана, што з сённяшняга дня зваць цябе касавокім ніхто не мае права. Дарэчы, прабач і мне, што сустрэў цябе такім недарэчным пытаннем — як і ўсе памыляўся.

Заяц зноў захліпаў:

— У мяне, дзядзечка Мядзведзь, не ўсё…

— Што яшчэ?

Заяц працягваў:

— Тое, што мяне лічаць баязліўцам, мяне не крыўдуе. Усе мы каго-небудзь баімся. Ды і не такі ўжо я баязлівец, я — асцярожнічаю.

— А што цябе крыўдуе? — перапытаў Мядзведзь.

— Мяне крыўдуе тое, і моцна крыўдуе, што амаль усе ў лесе лічаць мяне прасцячком, ледзь не дурным. А я не такі. Розуму ў мяне не менш, чым у іншых. Можаце праверыць, дзядзечка Мядзведзь.

Мядзведзь пачухаў патыліцу.

— Як жа я цябе праверу?

Заяц запаліўся:

— А хто ў нашым лесе самы разумны? — потым спахапіўся, пачырванеў,— Ой, што я кажу! Безумоўна, самы разумны вы, дзядзечка Мядзведзь! А вось хто ў нашым лесе самы хітры?

— Самы хітры? — перапытаў гаспадар лесу,— Пэўна, самая хітрая ў нас Ліса. Ці не хочаш ты яе аб'ягорыць, вушасцік?

— Запраста! — выпаліў Заяц,— Вось, калі я перахітру саму Лісу, што тады?

— Тады… — Мядзведзь зноў пачамяшыў патыліцу,— Тады ты будзеш у нас самы разу… прабач, самы хітры. І мандат такі атрымаеш з маіх лап, і ўсе цябе паважаць будуць — і я ў тым ліку. Але, калі апрастахвосцішся, быць табе і прасцячком, і дурненькім. Рызыкуеш, вушасцік! Ох рызыкуеш!

— Рызыкую! — усклікнуў Заяц,— Але ж добрае імя рызыкі вартае!

І ён памкнуўся ад Мядзведзя, каб нейкім чынам ажыццяўляць задуманае, але гаспадар лесу яго спыніў.

— Пастой! А як я і ўсе мы даведаемся, што ты перахітрыў Лісу?

Заяц весела ўсміхнуўся:

— А вельмі проста, дзядзечка Мядзведзь! Я да вас прыеду верхам на Лісе — гэта і будзе сведчаннем таго, што я яе абдурыў.

Мядзведзь ад здзіўлення раскрыў рот.

— Верха-а-ам на Лісе?.. Каб Ліса дазволіла сесці на сябе… ды каму? Ты, вушасцік, перагнуў.

— Пабачым! — весела адгукнуўся Заяц і знік у лесе.

Тут, як на тое шчасце, нос у нос спаткалася Ліса.

— Вітаю цябе, касавокі! — з ухмылкай прывіталася яна,— Куды скачаш?

— Вітаю цябе, Воўк! — азваўся Заяц.

Ліса здзівілася:

— Які Воўк? Дзе Воўк? Гэта ж я, Ліса.

Заяц жаласліва працягваў:

— Ой, прабач, Лісачка. Штосьці з маім зрокам здарылася — быў касавокі, зараз зусім ўсё расплываецца перад вачыма. Вось цяпер ты выглядаеш, як Лось з рагамі.

— Ды ты што? — абурылася Ліса,— Толькі рог мне і не хапала!

Заяц зарагатаў:

— Во-о, цяпер ты падобна да Вожыка. Не падыходзь, бо яшчэ паколіш мяне.

Ліса на ўсякі выпадак пагладзіла лапкай сваю прыгожую шубку.

— Няма ў мяне ніякіх іголак! Раскасавурыўся ты зусім, вушасцік. Наведаў бы лепш нашага акуліста Дзятла, ён табе акуляры прапіша, ці нейкія лекі.

Заяц скрывіўся:

— Ды быў я ў яго, Лісачка. Вось і праўку ён нейкую мне напісаў. На жаль, я са сваім зрокам прачытаць яе не магу.

Ліса перахапіла спраўку.

— Які дурань гэта напісаў? — зарагатала яна,— Ды яшчэ за подпісам самога гаспадара лесу! Ты хоць ведаеш, што тут напісана? — звярнулася Ліса да Зайца.

— Не! — адказаў Заяц,— А што там?

Ліса працягвала рагатаць:

— А тут сведчаць пісьмова, што ты не толькі не касавокі, а маеш зрок не горшы, чым ва ўсіх нас.

— Ды не можа такога быць! — зрабіў здзіўлены выгляд Заяц,— Гэта ж здзек! Гэта ж такое напісаў Дзяцел, каб усім лесам пасмяяцца з мяне.

Заяц жаласціва захліпаў:

— А Мядзведзь!... І ён з усімі насмешнікамі за адно. Які сорам!

Ліса схамянулася:

— У мяне ажно лапы свярбяць, настолькі хочацца хутчэй дабегчы з гэтай спраўкай да гаспадара лесу. Але ж і ты павінен быць там, касавокі-перакасавокі! Які без цябе баль! Ты будзеш галоўным героем гэтай смехатворшчыны. За мной!

І Ліса падалася ў бок ляснога зборышча звяроў.

Заяц памкнуўся за ёй, але рабіў выгляд, што амаль нічога не бачыць — то лез галавой у куст, то натыкаўся лбом на дрэва.

Ліса нервова ўскіпела:

— Ну што ты цягнешся, як чарапаха! Хутчэй перастаўляй лапы!

Заяц зусім абвіс:

— Не магу… Цёмна ў вачах. Давай сюды маю спраўку і імчы адна да Мядзведзя.

— О не! — усклікнула Ліса,— Без цябе і гэтай паперкі нечаканы дзень гумару не атрымаецца.

— Вось што,— усхліпнуў Заяц,— калі хочаш для сябе сапраўднае свята смеху, падвязі мяне на сабе, усё ж хутчэй будзе.

Ліса ў запале пагадзілася:

— Во навязаўся на маю галаву! Лезь мне на спіну касавочына-сляпоціна. Трымайся!

Мядзведзь тым часам склікаў да месца ляснога сходу ўсіх жыхароў лесу. Усім нецярпелася пасмяяцца з Зайца, які ўздумаў перахітрыць саму лісу.

Якое ж было іх здзіўленне, калі на паляну, высунуўшы язык, прыімчала Ліса, на спіне ў якой важна сядзеў Заяц.

Агульнае здзіўленне і аслупяненне раптоўна змянілася дружным рогатам. Больш за ўсіх рагатала Ліса і выкрыквала ў бог Зайца:

— Я ж казала, касавокі, што свята смеху адбудзецца. І адбудзецца, дзякуючы табе, вушасцік! Які ты працячок!

Мядзведзь перапыніў смех і весела заключыў:

— Свята смеху сапраўды адбылося. І адбылося, як ты сказала, Лісачка, дзякуючы нашаму некасавокаму і вельмі разумнаму Зайцу.

Невядома, як у іншых лясах, а ў гэтым лесе з тае пары, наш некасавокі хітрун лічыцца самым разумным сярод усіх звяроў, вядома ж, пасля гаспадара лесу, бо спрадвеку галоўныя — самыя разумныя.

## Незвычайная знаходка

У гарадской мітусні, дзе, месцамі, між людзьмі не прапіхнуцца, лёгка што-небудзь згубіць, але з такой жа лёгкасцю можна што-небудзь, нейкім згубленае і знайсці. Таму — губляюць і знаходзяць, знаходзяць і… не, не губляюць, а нясуць у бюро знаходак. У такой кругаверці, згубленае даволі хутка праз згаданае бюро знаходак, вяртаецца да свайго гаспадара ці гаспадыні, бо хто ж паквапіцца на чужое?

Адным такім мітуслівым днём, Кастусь падняў штосьці некім згубленае. Ды настолькі гэта штосьці было незвычайнае і ніколі раней Кастусём не бачанае, што хлопец хацеў спачатку кінуць сваю знаходку зноў на зямлю, але ўспомніў пра знакамітае бюро знаходак і накіраваўся туды.

Загадчыкам таго бюро быў старэнькі дзед, які пражыў на гэтым свеце… ён і сам не ведаў колькі яму гадоў, настолькі даўно ён нарадзіўся. А чалавек, вядома ж, чым больш жыве, тым больш усяго ведае і нават слыве мудрацом. Вось за такія яго якасці, дзеда трымалі загадчыкам бюро знаходак ажно… ніхто ўжо і не памятае, колькі год узначальваў стары бюро.

Да гэтага паважанага і мудрага чалавека і звярнуўся збянтэжаны Кастусь.

Звярнуцца да старога было зноў жа зусім няпроста, бо ні свайго прозвішча, ні свайго імя дзед не памятаў, таму Кастусь пачаў так:

— Шаноўны дзядуля! Вось што собіла мне знайсці ў тлумным натоўпе. Знайсці знайшоў, а што, не ведаю. Каму ні паказваў, усе круцяць галовамі, як тыя совы — кажуць не ведаем і капцы тут. Занадта ж мудрагелістае штосьці — вось зірніце самі, шаноўны дзядуля.

Стары ўзяў у Кастуся знаходку, пакруціў яе каля сваіх, ледзь бачных пад махнатымі брывамі вачэй, і адразу ж вярнуў яе Кастусю.

— Не, сынок, гэта я прыняць не магу! Прымаю ўсё, што толькі знаходзяць, а гэта не вазьму.

Кастусь здзівіўся:

— Чаму, дзядуля? Нехта ж будзе шукаць згубу.

Дзед рашуча зноў запярэчыў:

— Той, хто гэта згубіў, ніколі не сазнаецца, што менавіта ён згубіў. А паколькі ніхто не сазнаецца, што гэта згублена ім, значыць твая знаходка будзе ў маім бюро ляжаць незапатрабаванай вечна.

Кастусь занепакоіўся:

— А што гэта? І што мне рабіць з гэтым?

— Што гэта? — перапытаў дзед,— Гэта, сынок, сумленне. Хтосьці яго згубіў. Вось… А дзе ты калі бачыў ці чуў, каб чалавек, згубіўшы сваё сумленне, сазнаўся ў гэтым? Будзе да канца свайго жыцця рабіць выгляд, што нічога не губляў, нават рот не раскрые і не скажа «а», не кажучы пра «я».

А што табе рабіць з ім? — дзед паціснуў плячыма.— Дакладна параіць нічога не магу. Ідзі, шукай, распытвай, ды назірай, магчыма, табе пашанцуе знайсці гаспадара гэтага сумлення. Хаця…

І падаўся Кастусь ад бюро знаходак няведама куды, хаця трымаў у руках ужо ведама што.

Бачыць, на плошчы гамоніць нейкі мітынг, людзей сабралася шмат, слухаюць выступоўца.

— Што тут адбываецца? — спытаўся Кастусь у нейкага мужчыны.

— А зараз жа праходзіць перадвыбарчая кампанія,— адказвае той,— вось слухаем аднаго з кандыдатаў у дэпутаты.

Кастусь наблізіўся да выступоўцы і пачуў:

— Я абяцаю вам заробак, як у Амерыцы! Выбірайце мяне і я абяцаю кожнаму з вас па кватэры. Калі ў каго ёсць кот ці сабака, і ў іх будзе па асобнаму пакою. Плату за камунальныя паслугі адмяню, усім пенсіянерам бясплатна ўстаўлю зубы. Нават залатыя.

Кастусь кінуўся на трыбуну да выступоўца.

— Нарэшце я вас адшукаў! Вось тое, што вы згубілі і што павінна належыць вам! Вазьміце!

Выступовец кісла скрывіўся:

— Гэта не маё! Я нічога не губляў… Дзе ахова? Адганіце ад трыбуны гэтага нахабніка, перашкаджае мне выкладаць праграму.

Кастуся адштурхнулі ад трыбуны і ён падаўся далей.

Бачыць, ля пад’езду аднаго дома стаіць сярэдніх год мужчына з пакамечаным тварам, а побач з ім старая жанчына, аб нечым размаўляюць.

Прыслухаўся Кастусь і чуе:

— Мама, ты ж атрымала пенсію,— кажа той пакамечаны мужчына,— дай хоць трохі грошай.

Старая адказвае:

— Сынок, ад пенсіі мала што засталося. Да наступнай пенсіі далёка, а мне ж на хлеб трэба.

Потым старая пытаецца:

— А навошта табе, сынок, грошы?

— Захварэў я, мама, трэба купіць лекі, а яны цяпер такія дарагія.

Старая пакорпалася ў сумачцы і падала сыну грошы.

— На, сынок. На лекі аддаю апошнія, толькі не хварэй ды лячыся.

«Што значыць мацярынскае сэрца! — з цеплынёй падумаў Кастусь,— Сама галадаць будзе, а сына ратуе».

Якое ж было яго здзіўленне, калі «хворы» бадзёра пакрочыў перад ім і за вуглом крутнуў у краму з гідкай назвай «Гарэлка-віно». Праз хвіліну шчаслівы паказаўся ў дзвярах з дзвюма бутэлькамі спіртнога.

Кастусь зразумеў, у чым тут справа, і спрытна падыйшоў да незнаёмца.

— Як вам не сорамна! — усклікнуў ён,— У старой маці забралі апошнія грошы на такія вось «лекі»!

«Хворы» злосна гыркнуў:

— А табе што за справа? Кацiся адсюль!

— Мая справа ў тым,— адказаў Кастусь, што вы нешта згубілі, а я знайшоў і хачу вам аддаць.

— Ого! — сквапна засвяціліся вочы незнаёмца.— Калі што цэннае, дык аддавайце.

Кастусь працягнуў сквапніку сваю знаходку і горача дадаў:

— Вось! Больш цэннага не бывае! Бярыце і надалей не губляйце.

Незнаёмец уважліва агледзеў прапануемую яму знаходку і скрывіўся горш, чым ад гарэлкі.

— Гэта! Ды такая «цэннасць» мне і задарма не патрэбна. І з чаго ты ўзяў, што гэта мая згуба? Такога дабра ў мяне свайго хапае. Бывай!

Зноў Кастусь застаўся з сваёй знаходкай, гаспадара якой, як казаў стары, амаль немагчыма будзе знайсці.

Што і казаць, мудры дзед з бюро знаходак, як у ваду глядзеў. Стаптаў Кастусь не адну пару абутку, прапаноўваў сваю знаходку розным людзям, магчыма, і не

губляўшым свайго сумлення і застаўся ні з чым. Дакладней, застаўся з тым, з чаго і пачыналася гэта казка.

Туляўся ён туляўся, і неўпрыкмет выйшаў за горад.

Бачыць, скубе траўку запрэжаны конь, і тут жа, ля дарогі сядзіць і курыць, засмучаны нечым гаспадар гэтага каня. Ды настолькі ён быў заглыблены ў сваю засмучанасць, што, калі Кастусь прывітаўся, незнаёмец ад нечаканасці аж здрыгануўся.

— Што вы, дзядзечка, такі пахмурны? — спытаўся Кастусь,— Дзень вунь які сонечны, а вы, як хмара чорная.

Мужчына зацягнуўся дымам і выдыхнуў:

— Як тут не быць навальнічнай хмарай?.. Жыццё пражыў сумленна і раптам, на табе…

Было відаць, што чалавеку балюча і цяжка, а, галоўнае, непрыемна пра штосьці сваё распавядаць.

Кастусь далікатна перапытаў:

— Ды што ўсё ж адбылося? Я разумею, што для вас я чалавек незнаёмы… і лезці да вас у душу не хачу, але, каб мог, з радасцю аблегчыў бы яе. Прабачце, калі ласка…

І Кастусь памкнуўся ісці далей, але незнаёмец спыніў яго.

— Пастой, хлопча!.. Паслухай. Ездзіў я на коніку ў горад, прадаць сёе-тое на базары. Сам ведаеш, што можа вясковец прадаць у горадзе — яйкі, сальца, малачко. Вось я гэта ўсё і прадаў.

Кастусь горача ўсклікнуў:

— Дык што ж благое вы зрабілі?! І вам добра, і людзі вам удзячныя. Не разумею, што вас непакоіць.

Вясковец абурана ўздыхнуў:

— Мне добра, а людзям?.. Ды якое тут — мне добра! Мне крыўдна за людзей, мне брыдка за сябе. Я, веда-

еш, хлопча, у бітон з малаком, каб больш утаргаваць, дадаў вады. Што на мяне найшло-наехала? Прыбытку — на капейчыну, а брыдоты — на ўсё астатняе жыццё. Яйкі былі свежанькія, сальца — смачненькае, а малако… Цьфу! Як мне жыць далей? Пра такіх, хлопча, як я, кажуць — чалавек, згубіўшы сумленне.

Кастусь ажно засвяціўся і ледзь не крыкнуў: «Вось яно! Я яго знайшоў, ваша сумленне!» — але своечасова прыкусіў язык. Не, гэты чалавек сумленне не згубіў. Ён крыху адхінуўся ад яго, на нейкі час забыўся на яго, але працягвае жыць з ім. Сам не разумее, наколькі яно, яго сумленне, больш моцна, больш чыста і шчыра загучала у ім.

Кастусь усклікнуў:

— Не, дзядзечка! Сумленне вы не згубілі! Гэты выпадак з малаком — гэта выпрабаванне, якое пайшло на карысць вам, якое яскрава паказала вам, наколькі небяспечна адхінуцца ад свайго сумлення нават на хвілінку. Вы, дзядзечка, гэта выпрабаванне вытрымалі і няхай яно будзе нашай з вамі тайнай. Зірніце, які сёння сонечны дзень! Бывайце!

І Кастусь пакрочыў далей.

На шчасце, людзей, якія не згубілі сваё сумленне, пераважная большасць. І калі Кастусю пашчасціць усё ж знайсці гаспадара згубленага сумлення, сумленных людзей стане яшчэ больш.

# Бу́льбік

Дзед капаў бульбу, якая ў гэтым годзе не надта ўрадзілася. Баба чакала яго дома, каб зрабіць старому падарунак да свята — дня вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і насмажыць любімых дзедавых дранікаў.

Дзед і сам чакаў такога падарунку, таму рыдлёўка здавалася лёгкай, а зямля пульхнай.

А вось бульба ўпарцілася — трапляла па-большасці дробная, а з такой дранікі не зробіш.

— Эх, зямля выпрацавалася,— уздыхнуў стары,— таму бульба і не родзіць. Ды і кароўкі ў нас ужо няма, а без угнаення, якія могуць быць ураджаі? Трэба будзе наступным годам адсеяцца на новым месцы.

І дзед з няпоўным вядзерцам драбязы паклыпаў дахаты.

Старая сустрэла яго пытаннем:

— Дзе ты там забавіўся? Я ўжо і печ распаліла, і патэльню для дранікаў падрыхтавала.

— Не будзе дранікаў,— сумна адказаў стары,— Вось, адна драбяза, пальцы паздзіраеш яе церучы.— Але! — і дзедавы вочы засвяціліся вясёлымі агеньчыкамі,— Глянь, якая бульбіна патрапіла. Дзіва!

І стары дастаў з вядра вялікую, з дзіўнымі наросткамі з усіх бакоў бульбіну.

— Вось! Чалавечак ды і толькі! Вось рукі, тут ногі, а зверху галоўка. Век пражыў і такога дзіва не бачыў.

— І сапраўды дзіва! — весела адгукнулася старая,— Вось яе і пусцім на дранікі, а да яе дадзяру дробнай. Не быць жа табе ў такі дзень без падарунку.

Стары адхінуў ад жонкі дзівосны экземпляр:

— Ды ты што! Такую прыгажосць на дранікі! І без дранікаў дзень Вызвалення справім! Калі мы вызвалялі Беларусь, было не да дранікаў, і сёння абыдземся без іх.

І стары асцярожна паставіў мудрагелістую бульбяную загагуліну на паліцу.

— Вось тут ёй і месца!

— Тут дык тут,— пагадзілася старая,— я ж хацела як лепей. Мне яна таксама падабаецца.

І селі дзед з бабай снедаць без дранікаў, чым Бог паслаў.

Трэба сказаць, што ў старых не было дзяцей, магчыма таму яны з такой далікатнасцю і цеплынёй аднесліся да звычайнай бульбіны, якая сабой нагадвала маленькае дзіцятка. Ім здавалася, што цяпер, з бульбінкай на паліцы, у хаце пасвятлела і зрабілася больш утульна.

Наступнай раніцай, як заўсёды, перакрысціўшыся і сеўшы за стол, каб снедаць, старыя, як па камандзе, спалохана ўскочылі.

— А дзе бульбінка? Ты яе ўзяла? — насядаў на старую дзед.— Яна табе што, замінала?

Старая шчыра адмахнулася:

— Ды пабойся ты Бога, стары! Я думала, ты яе перахаваў.

Дзед схапіўся за галаву:

— Напэўна пац ці мышы збяёдвалі нашу бульбінку. Ай, шкада! Дзе ж яе шукаць?!

— Ды тут я! Тут! — Ці падалося старым, ці сапраўды пачулася аднекуль з-за стала.

— Ты гэта сказала? — спалохана спытаўся дзед.

— Не... — гэтак жа спалохана адказала баба,— Я думала, што ты жартуеш.

— Гэта не жарты. Я тут! — цяпер ужо больш выразліва пачулі старыя і нахіліліся за рог стала, адкуль чуўся нечы голас.

Старыя ў здзіўленні раскрылі раты. На крайчыку лавы сядзела іх бульбінка.

Першым апрытомнеў дзед.

— Хто сказаў «я тут»?

— Я сказаў, я тут! — весела адказала бульбінка і пацвердзіла: — Вы ж бачыце, я тут!

Цяпер ужо і да старой вярнулася мова.

— А хто ты?.. Ой, што я старая-дурная пытаюся?

Дзед спахапіўся:

— Ды кінь ты свае роспыты! Сняданак стыне. Давай мы што-небудзь прыладзім, каб табе было вышэй,— і дзед паставіў на лаву скрынку, на якую пасадзіў бліжэй да самага стала нечаканага снядальшчыка.

Баба рупліва падсунула да бульбінкі маленькія сподачкі.

— Вось кашка, вось малачко. Добра, што ў суседзяў учора купілі. Еш на здароўечка!

— Дзякуй, бабуля, дзякуй, дзядуля! — адказала бульбінка,— Я, калі вы не супраць, буду у вас жыць.

— Жыві, родненькая! — у адзін голас усклікнулі старыя,— Месца ж хапае, ды і нам весялей будзе. Але, як нам цябе зваць? Як звычайна бульбінку завуць? Мы не ведаем.

— Я хлопчык! Я Бу́льбік! — так мяне і завіце.

*

І пачаў жыць Бульбік з дзедам і бабай. Ён настолькі быў ім удзячны за тое, што яго не пусцілі на дранікі,

што ўвесь час думаў, што б такое карыснае зрабіць для старых, чым бы ўсцешыць іх старасць.

Перш-наперш ён употай, каб яго не бачылі дзед з бабай, пабег туды, дзе нарадзіўся — на бульбянае поле.

Перабягаючы з баразны ў баразну, Бульбік прыгаворваў, звяртаючыся да сваіх братоў і сясцёр:

Расціце, круглейце,
Не спіце, таўсцейце.

Калі ж пачалі выбіраць бульбу, баба не магла надзівіцца, дзед не мог нацешыцца — бульба была адна ў адну, вялікая, круглая, прывабная воку.

— Глянь, што за цуд! — захапляўся дзед, насыпаючы поўныя мяхі.— Я ж, памятаеш, капаў не так даўно яе на дранікі, а выкапваў адны арэхі, а тут любата. За сваё жыццё такога ўраджаю на сваіх сотках не бачыў. Во ад'ядзімся дранікамі!

Баба лагодзіла дзеду:

— Грэх будзе не ад'есціся. Але дзе ж мы яе, бульбачку, падзенем? Мы ж яе не з'ядзім.

Дзед пахваляўся:

— Гэта, дзякуючы мне бульба вымахала па кулаку. Я пад дожджык лішні раз абагнаў яе, вось яна і аддзячыла мне.

Баба не ўтрымалася:

— Ды не табе дзякуючы, а мне. Я не разгінала спіны палола яе і ўзрушвала, вось мне яна і аддзячыла.

Бульбік, які ўвесь час завіхаўся ля ног старых, быў таксама ўзрушаны і шчаслівы. Не хацеў ён раскрываць свайго сакрэту — няхай старыя цешацца, бо і яны выказвалі сваёй працай пашану бульбе.

Дзед, насыпаючы чарговы мяшок, паўтарыў бабава пытанне:

— І сапраўды, дзе мы яе дзенем? Яе ж, хоць у тры горлы еш, не з'ясі.

Тут Бульбік не стрымаўся:

— А мы, прададзім лішкі, дзядуля, бабуля. А за грошы купім што-небудзь смачненькае.

— Ай ды разумнік! — пляснула рукамі баба,— Купім, Бульбічак, і сабе што-небудзь, і табе, што пажадаеш.

Калі ж восенню дзед ускінуў мяшкі з бульбай на воз, каб ехаць на базар, Бульбік папрасіўся:

— Вазьмі, дзед і мяне на базар. Па-першае, я там ні разу не быў, а па-другое, я буду табе дапамагаць прадаваць бульбу.

Дзед зірнуў на бабу.

— Узяць яго ці што?

Баба адказала з неахвотай:

— Не ведаю… Вазьмі, але ж не пасей яго па дарозе ці на базары. Людзей там процьма, а ён маленькі такі. Ды і на цябе мала спадзеўкі — разява.

Стары на «разяву» не звярнуў увагі, а быў задаволены, што хоць так атрымаў дазвол.

Ён запрог каня, пасадзіў сабе на калені Бульбіка і тузануў за лейцы. Конік паволі крануўся з месца і праз нейкі час стары са сваім памагатым былі на базары.

Бульбік, вядома ж, дзівіўся:

— А колькі людзей тут, дзядуля! А колькі машын! А якія вялікія дамы!

Дзе дзівіўся па-свойму, абураючыся:

— Што людзі, што мне машыны?. А вось колькі тут бульбы! Панавезлі, ліха на іх дасціпнасць.

Бульбік зноў дзівіцца:

— А што, дзядуля, дрэннае ў тым, што шмат бульбы панавезлі?

— А тое, Бульбічак,— сумна адказаў дзед,— што прадаць нам сваю будзе складана. Баюся, што прыйдзецца везці дамоў.

— Не прыйдзецца! — запаліўся Бульбік.— Пасадзі мяне на вось гэты, самы высокі мяшок, каб мяне ўсе бачылі.

Дзед выканаў просьбу свайго памагатага.

— А што далей?

— А далей слухай, дзядуля! — і Бульбік тоненькім галасочкам пачаў спяваць-зазываць:

Людзі добрыя, увага!
Я і дзед да вас з павагай.
Бульба смачная у дзеда,
Для сняданка, для абеда,
Вось вядро — на ім вяршок,
Кал ласка — вось мяшок.
Тут і пяць, нарэшце —
На здароўе ешце!

Такога дзіва ніхто ніколі не бачыў і не чуў. Ды і сам дзед раскрыў рот да вушэй ад здзіўлення. Пачалі збірацца людзі. Нават тыя, хто не збіраўся купляць бульбу, куплялі яе.

Дзедавы пяць мяшкоў «размялі» за паўгадзіны. І што цікава — на грошы не скупіліся, настолькі быў незвычайны гандляр.

Адзін мужчына запытаў у дзеда:

— Колькі хочаш за гэтага… як яго?

— Гэта Бульбік! — адказаў дзед.

— Ды колькі заплаціць за твайго Бульбіка? Любыя грошы плачу.

Дзед адмахнуўся:

— Не, мілы чалавек! Ён у нас з бабай заместа ўнучка. Мы — адна сям'я.

Але, акрамя гэтага дасціпнага незнаёмца быў на базары яшчэ большы дасціпнік.

Ён падыйшоў да дзеда.

Стары не даў яму раскрыць рот:

— Не прадаецца ён! Бульбік — наш з бабай унучак. Выбачайце.

Незнаёмец усміхнуўся:

— Ды я ўжо чуў, як вы адмовілі папярэдняму чалавеку. Я не купляць, я другое хачу з вамі абталкаваць.

Дзед з недаверам выдыхнуў:

— Слухаю…

Я, шаноўны дзед, працую ў міністэрстве сельскай гаспадаркі.

— Ого! — не стрымаўся дзед.

Незнаёмец працягваў:

— Гэтай восенню ад нас, з Беларусі, адпраўляецца вялікая колькасць бульбы ў Маскву на міжнародную сельскагаспадарчую ярмарку. Канкурэнтаў будзе шмат. І з той жа Расіі, і з Галандыі, і з Польшчы, і… Усіх не пералічыць. Не маглі б вы нам пазычыць вашага Бульбіка…

Дзед не даў дагаварыць незнаёмцу:

— Ні за што! Вам пазыч, а потым шукай, свішчы. Ён такі маленькі, далікатны, за ім патрэбен дагляд, як за дзіцём. Карацей — не!

— Тады другая прапанова.— Не адступаў незнаёмец,— Давайце мы вас, шаноўны дзед, афіцыйна ўключым у склад дэлегацыі. Вы пабудзеце ў Маскве, будзеце ўвесь час пры вашым, прабачце — пры нашым Бульбіку, і няхай ён там, на ярмарцы падцярэ насы замежным канкурэнтам. Ну, як?

Стары задумаўся.

— Я дык ў Маскве не разу не быў… Што ж, калі я пры Бульбіку, а ён пры мне, чаму б не з'ездзіць у Маскву? Па руках!

*

І вось яна, Масква! І вось яна, міжнародная ярмарка!

Тут ужо не толькі Бульбік, але і дзед не мог надзівіцца. Ад людзей, ад рознакаляровых павільёнаў стракаціла ў вачах.

Усюды крыкі, зазывалы, рэклама. Усе хацелі збыць сваю прадукцыю, а галоўнае, зрабіць гучную рэкламу сваім фірмам, сваім дзяржавам.

Дзед, апрануты ў нацыянальны беларускі касцюм, выглядаў даволі маладцавата і ўсхвалявана. І хвалявацца было ад чаго. Гэта не той мясцовы базар, дзе на дзедавым возе ляжалі пяць мяшкоў бульбы. Тут — цэлы беларускі павільён з рознымі відамі сельскагаспадарчай прадукцыі. Ды ўсё прыгожае, ды ўсё якаснае.

Але ж і ў суседніх, і ва ўсіх павільёнах прыгажосць і якасць. Як тут усіх абскакаць?

Тут стары, бярэ Бульбіка, умацоўвае яго высока перад уваходам у павільён, а сам становіцца побач.

— Пачынай, Бульбічак! — просіць ён.

І Бульбік пачаў спяваць-зазываць:

Купляйце беларускае, яно<br>
Вядомае усюды і даўно.<br>
І малачка, і мяса,<br>
Гародніна ўся наша.<br>
І печыва, і беларускі квас,<br>
І лепшая у свеце<br>
Бульбачка у нас.

Што пачало рабіцца!

Слых аб тым, што беларуская звычайная… не, незвычайная бульбіна нахвальвае лепшую ў свеце беларускую бульбу і ўсё астатняе, імгненна разляцеўся па ўсёй міжнароднай ярмарцы.

За першы дзень усё беларускае было раскуплена. Прыйшлося тэрмінова даводзіць увесь асартымент прадукцыі.

Дзеду зноў жа прапаноўвалі, цяпер ужо замяжоўцы, за Бульбіка і долары, і еўра, але дзед стаяў на сваім:

— Мы з Бульбікам — адна сям'я.

Старога са сваім, як ён казаў, унукам, з пашанай адвезлі дамоў, пакінуўшы, у якасці падарунка, нацыянальны беларускі касцюм і выказалі шчырую падзяку.

На жаль, вёска, у якой жывуць дзед з бабай і Бульбік не захавалася ў памяці.

Але з тае пары, у Маскве ды і ва ўсёй Расіі, з задавальненнем купляюць ўсё беларускае, асабліва бульбачку.

# *Даведка*

У шостым томе, старонка 426 пры вёрсты памылкова быў уключаны верш «Вечер, чарнавы варыянт верша «Как объятья милой».

## ЗМЕСТ

### ВЕРШЫ 2017

## ГУМАР



## ПАЭМЫ



## АЎТАРСКІЯ РУСКАМОЎНЫЯ ВЕРШЫ

## АПАВЯДАННІ



## КАЗКІ

Літаратурна-мастацкае выданне

**ДАВІДОВІЧ** Сяргей Фёдаравіч

ЗБОР ТВОРАЎ

**Том 7**

*Вершы*
*Паэмы*
*Апавяданні*
*Казкі*

Адказны за выпуск *А.М. Вараксін*

Малюнки *С. Ф. Давідовіча*
Фота *Л. С. Тайноўскага*

Мастацкае афармленне серыі *С. Ф. Давідовіча*
Мастацкі рэдактар *В. М. Максімовіч*
Тэхнічны рэдактар *Л. С. Зубец*

Падпісана да друку 31.05.2017. Фармат 84×108$^{1}/_{32}$. Папера афсетная.
Гарнітура Таймс. Друк лічбавы. Ум. друк. арк. 21,42.
Ул.-выд. арк. 13,05. Наклад 50 экз. Заказ 20.

Выдавец і паліграфічнае выкананне: індывідуальны прадпрымальнік
А.М. Вараксін. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вырабніка і распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/99 ад 02.12.2013.
E-mail: artmanager3@mail.ru